
Малыя іканапісцы → 3

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Касцюшка таксама наш → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3206) Год LXII | Беласток, 22 кастрычніка 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Доктар Анатоль пайшоў на той бераг...

**— До-о-обры дзень! — вітаўся з «Нівай» Анатоль Бахарэвіч, заходзячы да нас у рэдакцыю. Спачатку чуўся стук ягонай палачкі пад будынкам рэдакцыі — наш Чытач ішоў у чацвер па новы нумар нашага тыднёвіка. Калі не мог, заходзіла па «Ніву» яго святой памяці жонка, або ў апошні час ягоны сын. І пачынаўся агляд вартых тэкстаў, важных падзей з беларускага свету ды пахвалы і заахвочванне самых працавітых, непаседлівых, справядлівых супрацоўнікаў «Нівы».**

Сустракалі мы спадара Анатоля Бахарэвіча на самых розных культурных, перш за ўсё беларускіх мерапрыемствах. І не падумаеш, што гэта «сеніёр». Як многа мог нам усім расказаць! Але не пра ўсё хацеў і мог:

— Будзе яшчэ час. Яшчэ жывуць тыя, што нас гналі з нашай зямлі, а ў мяне ёсць дзеці, унукі. Мсціцца на іх будуць. Як той бандыт-злодзей, які ўжо на студыях у Вроцлаве зачапіў мяне: „O, nosisz te buty, których ci nie zabrałem, jak przyszliśmy z wami porządek zrobić!”.

Не, дарагі дзядзя Толік, ужо часу не будзе, і не раскажаце ўсёй праўды тут... А мы не пачуем кожны чацвер Вашага аповеду пра ваенныя лёсы...

З усіх адзнак, медалёў, дыпломаў і падзяк ад дзяржаўных і прафесійных улад, якія атрымаў за сваё жыццё доктар Анатоль Бахарэвіч, да найважнейшых належаць Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы, Залаты крыж заслугі, медалі за заслугі для справы абароны краіны і для ветэрынарыі, медаль імя Кшыштафа Клюка, за доўгае жыццё ў сужонстве і медаль Святога Ізыдара-Ратая, патрона сялян.

— А мае найлепшыя дасягненні — двух сыноў, шасцёра ўнукаў і васьмёра праўнукаў, — цешыўся нестар ветэрынарыі.

Кожны чацвер год у год па новы нумар беларускага тыднёвіка ў рэдакцыю заходзіў сівенькі бадзёры жыхар алеі Пілсудскага. Ужо з памочніцай-палачкай. А ў канцы прыязджаў на калясцы, якую вёў яго сын.

— З-за яго сціпласці мы нават не ведалі, што вазок стаіць пад дзвярыма рэдакцыі, калі яго сын заходзіў па «Ніву», — уздыхае Галіна Рамашка, кіраўнік ніўскай канцылярыі. — А мы ж выбеглі б на вуліцу прывітацца!

Раней Анатоль Бахарэвіч падпісваўся на «Ніву», але пасля таго, як перамог у гістарычным ніўскім конкурсе, зачасціў у недалёкую ад яго хаты рэдакцыю. Тут цікавіўся новымі выданнямі з усяго беларускага свету і проста размаўляў. Не ўсё мог распавесці з таго, што ён і яго сям'я перажылі, бо яшчэ жывуць нашчадкі тых, хто хацеў іх з роднай зямлі сілай выгнаць у іншы «рай»...

Доктар ветэрынарных навук Анатоль Бахарэвіч нарадзіўся 14 красавіка 1925 года ў вёсцы Баршчэва каля Харошчы. Бацькі, Ганна і Пятро, гаспадарылі там на 4 гектарах зямлі. Першыя чатыры класы кончыў у роднай вёсцы, два наступныя ў Харошчы. Ад пачатку вучобы вылучаўся высокімі вынікамі. Відаць, добры быў узровень гэтых школ, калі на экзамене ў школу імя Караля Зыгмунта Аўгуста ў Беластоку Толік апынуўся на 9 месцы на сто кандыдатаў з гарадскіх школ. Штодзень хадзіў 12 кіламетраў у школу ў Беласток. Дзякуючы высокім ацэнкам і старанасці атрымаў ён месца ў школьнай бурсе, а праз нейкі час звольнілі яго з паловы школьных аплат. Выбух вайны ў 1939 г. змяніў традыцыйную гімназічную адукацыю, савецкія ўлады заняліся школьнай праграмай, а з момантам пачатку вайны III Рэйха супраць СССР школьнае навучанне было спыненае...

Вясной 1942 г. Анатоль Бахарэвіч быў ахоплены акцыяй вывазак на прымусовыя работы ў III Рэйх. Зборным пунктам вывазак грамадзян Польшчы быў пляц у Беластоку, на якім пасля вайны доктар А. Бахарэвіч, ужо як дырэктар Ваяводскага ветэрынарнага цэнтра, правёў пабудову аб'ектаў для ваяводскай ветэрынарыі. Анатоля на кірмашы нявольнікаў у Біскупцы выбраў баўэр з Бартошыцаў, дзе працаваў да пачатку 1945 года. Шчасліва перажыў нэўдалыя ўцёкі ад баўэра і вывазку на фартыфікацыйныя працы ў Тыльзіце і будаўнічыя работы ў Кёнігсбергу, які атакавала савецкая армія. Паля пераходу фронту праз Усходнюю Прусію вярнуўся шчаслівa дахаты, працаваў на гаспадарцы. Неўзабаве стаў старацца аднавіць вучобу ў Беластоку. У гімназіі і мужчынскім ліцэі № 2 кончыў прыспешаную вучобу, атрымліваючы вельмі добрыя вынікі на атэстаце сталасці на пачатку 1946 года. Меўшы вялікі здольнасці з прыродазнаўчых прадметаў, стараўся паступіць у Варшаўскую палітэхніку — на жаль ад студзеня 1946 г. ужо працягваўся акадэмічны год, а набор на першы курс быў ужо закрыты. Новым шанцам была новая вучэльня ў Вроцлаве — універсітэт і палітэхніка. Але і тут набор на сціслыя факультэты быў ужо завершаны. На шчасце, у яе рамках з 1 лістапада быў адкрыты Факультэт ветэрынарнай медыцыны. Там і пачаў вучобу ў навукоўцаў з даваеннай Акадэміі ветэрынарнай медыцыны ў Львове. У час вучобы Анатоль вылучаўся пільнасцю і працавітасцю, незвычайнай актыўнасцю і зацікаўленасцю да даследчыцкай працы. Як студэнт-валанцёр супрацоўнічаў з Кафедрай агульнай гадоўлі, а чатыры гады быў віцэ-старшынёй навуковага кружка ветэрынарных медыкаў. Належаў да першага году выпускнікоў Вроцлаўскага факультэта ветэрынарнай медыцыны, з дыпломам лекара ветэрынарыі, які атрымаў 24 кастрычніка 1950 года.

Пасля вышэйшай школы пачаў працу ў Сыцаве каля Вроцлава на пасадзе кіраўніка Павятовай лячэбніцы для звяроў. Неўзабаве (у 1951 г.) прызвалі яго ў армію. Афіцэрскае абучэнне адбыў у Пулавах, адкуль выслалі яго ў часць у Бартошыцах. Пяць гадоў выконваў там розныя функцыі, дайшоў да рангу капітана. Вайсковую службу кончыў будучы эпізаатыёлагам у Часці ветэрынарнай службы Галоўнай інтэндэнтуры Войска Польскага. Паслякастрычніцкая адліга дазволіла яму вярнуцца да цывільнай працы ў ветэрынарыі.

Пачаў цывільную ветэрынарную працу 8 сакавіка 1957 г. у Міхалове. Пасля 4 гадоў, з 1 сакавіка 1961 г. быў прызначаны на пасаду Ваяводскага лекара ветэрынарыі і дырэктара Ваяводскага ветэрынарнага цэнтра. На гэтай пасадзе працаваў больш за 20 гадоў, да 1982 г. У сваёй працы заўсёды вылучаўся салідн асцю і кампетэнтнасцю. Атрымаў адзнаку, якая існуе ад 1966 года, за «ўзорную працу ў ветэрынарнай службе» з білетам № 1. У час дырэкцыі ў ВВЦ мадэрнізаваў матэрыяльную базу ветэрынарыі, вёў студэнцкія практыкі і стажы ды навуковыя даследаванні. Дзякуючы адпаведнай арганізацыі Беластоцкае ваяводства ў 1963 г. было ўжо свабоднае ад туберкулёзу быдла, а ад энтазаатычнай лейкеміі быдла — з 1984 г. Бахарэвіч працаваў над пытаннем «Даследаванні над прымяненнем абязбольваючых сродкаў пры запаленні вымя ў кароў», якое было звянчанае атрыманнем у 1968 годзе ў Вроцлаве навуковага звання доктара ветэрынарных навук. Праз розныя формы падтрымкі даследчыцкай актыўнасці ветэрынараў, дадатковыя фонды на лабараторныя працы і асабістую падтрымку даў магчымасць сваім 32 супрацоўнікам здабыць званні дактароў навук.

— Адданасць на гэтым палетку была асаблівай жыццёвай і прафесійнай місіяй доктара Бахарэвіча, — казаў прафесар Павел Сыса з Галоўнай школы вясковай гаспадаркі ў Варшаве на 90-годдзі доктара Бахарэвіча ў 2015 годзе. — Гэтая дзейнасць, накіраваная на павышэнне кваліфікацыі, здабыванне добрых вынікаў працы і фармаванне сяброўскіх адносін у прафесійным асяроддзі, звяртаючы ўвагу на неабходнасць захавання высокіх крытэрыяў працы, добра ўплывала на кансалідацыю ветэрынарнага асяроддзя на абшары ўсёй краіны. Развіваў ён таксама свае арганізацыйна-грамадскія захапленні. Быў суарганізатарам Музея ветэрынарыі ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, дакументаваў творчую даследчыцкую працу сваіх калег-ветэрынараў. Як чалавек шляхетны, справядлівы і прыстойны заўсёды сустракаўся з павагай сваіх калег і грамадства.

— Успамінаю яго вельмі добра, — прызнаецца ягоная пляменніца Анна Юшчук. — Не толькі як добрага, клапатлівага, цёплага сямейніка, верніка, выдатнага навукоўца, а як прыстойнага, правага чалавека. Заангажаванага ў жыццё царквы і беларушчыны. Вельмі добрага чалавека.

— Анатоль Бахарэвіч, сваяк маёй жонкі, — расказвае гісторык Вячаслаў Харужы, — з вёскі Баршчэва. Ведаў ён асабіста ксяндза Вітаўта Шутовіча, ён у вёску прывозіў «Хрысціянскую думку» і казаў, што яны — беларусы, незалежна ад веравызнання (Шутовіч вучыў каталіцкай рэлігіі); Бахарэвічы — праваслаўныя. Быў ён у час акупацыі на прымусовых работах, каля Біштынка... Ведаў як мінімум чатыры мовы: родную беларускую, польскую, рускую і французскую... У час, калі быў на работах, быў падпісчыкам берлінскай «Раніцы», яна друкавалася лацінкай... Быў чалавекам вельмі сціплым, адукаваным, вельмі ветлівым для ўсіх людзей, не паказваўся, што ён чалавек вучоны, любіў сустракацца з людзьмі, быў адкрыты да ўсіх, нягледзячы на іх эканамічны статус ці ўзровень адукацыі. Умеў з кожным чалавекам пагаварыць і даць яму пазітыўны імпульс. Памятаю, як увесь час даваў імпульс і мне, і іншым, як рэдагавалі мы «Часопіс», хваліў і заахвочваў да пісання. Быў на ўсіх беларускіх урачыстасцях, на Днях Волі. Незалежна ад свайго ўзросту, стараўся даведацца чагосьці новага, хадзіў на розныя навуковыя сустрэчы, лекцыі, канцэрты...

— Юбілей дзевяностай гадавіны (2015 г.) гэтага нестара польскай ветэрынарыі, — расказала прафесар Тэрэса Занеўская, — у палацыку Чарнецкага ў Парослым сабраў больш за дзвесце асоб з усёй Польшчы. Юбіляр трымаўся зухавата і прэзентаваўся як сапраўдны пераможца. Выйграў ён жыццё, таму што перамог старасць, будучы ў ёй вялікім. Запрашэнне на ягонае свята аздобіў ліст аканта — сімвал добра выкананага задання.

**Міра ЛУКША**





# Як зрабіць імя ў журналістыцы

Да мяне падышла журналістка. Маладая, энергічная, прыгожая. Такім не адмаўляюць у інтэрв'ю. Я яшчэ падумаў, што з яе атрымалася б някепская шпіёнка. Кожнага можа разгаварыць.

А яшчэ я падумаў, што сярод маладых журналістаў нарэшце сталі з'яўляцца сапраўдныя прафесіяналы, чаго мы так доўга чакалі. Я з сябрамі толькі што вярнуўся з вулічнай акцыі, дзе раздавалі мінакам буклеты супраць смяротнага пакарання. І да пачатку гэтай акцыі мы яе не афішавалі, каб праблем не нажыць раней часу. А вось гэтая маладая журналістка нейкім чынам даведалася. Так я падумаў. Але чарговы раз жорстка памыліўся. Журналістка, як аказалася, не толькі нічога не ведала пра вулічную акцыю, але і ведаць не хацела.

— Я раблю матэрыял пра бескантрольны продаж зброі ў Амерыцы, што прывяло да трагедыі ў Лас-Вегасе, — адразу без лішніх цырымоній і гублення часу на правілы этыкету заявіла яна замест прывітацца. — Таму хачу, каб вы як праваабаронца распавялі пра кантроль над зброяй у нас у Беларусі.

У мяне ажно дух пераняло. Ну прычым тут праваабаронца да пытання вольнага продажу зброі?!

— Сёння дзень супраць смяротнага пакарання, — інфармую я яе. — А вы першая, хто даведаўся пра нашу акцыю. Можа вам пра гэта штосьці распавесці? — пытаюся.

— Ні ў якім разе, — пярэчыць дзяўчына. — На гэтай тэме імя не зробіш. Не папулярная яна. Толькі згуба часу. А жыццё кароткае. Трэба спяшацца. Іншая справа бойня ў Лас-Вегасе. Там столькі пастраляных. Усе пра тое гавораць. Вось пра што пісаць трэба. Асабліва пра забарону продажы зброі. Як у нас, у Беларусі. Зброя забароненая і таму такіх інцыдэнтаў і быць не можа.

— Ну калі гаварыць пра кантроль над зброяй у нас, то тут я на сваёй шкуры яго адчуў, — распачаў я агучваць сваё стаўленне да гэтага пытання, пасмейваючыся ў душы, бо зразумеў, што дзяўчына, якая не любіць губляць час, зусім не тое хоча ад мяне пачуць. — У мяне была зарэгістраваная зброя. Ну дык кантралёры ў пагонах з хаты маёй не вылазілі. Аж пакуль я яе ім не аддаў. Толькі вось раю вам паглядзець крыху статыстыкі. Прыкладам на сайце міністэрства ўнутраных спраў Беларусі вы можаце пабачыць, што ў нашай краіне дзе няма свабоднага продажу зброі, а ёсць жорсткі кантроль на ёй, за мінулы год было 437 забойстваў або спроб забіць. Ну а ў такім амерыканскім мегаполісе як Нью-Йорк, які па колькасці людзей падобны на нашу стабільную краіну, а калі палічыць нелегалаў то і больш, і дзе ёсць многа зброі і значна менш паліцыі, забойстваў у мінулым годзе было чамусьці менш чым у нас, 335. Я разумею, вы, маладыя, лянуецеся лазіць па такіх сайтах. Але хоць у папулярную сярод моладзі вікіпедыю залезці не так складана. І там мы можам убачыць, што ва ўзброенай да зубоў Амерыцы паказальнік забойстваў у параўнанні на 100 тысяч насельніцтва складае 4,62. Ну а прыкладам у нашай суседкі Расіі, дзе продаж зброі забаронены, гэты паказнік ажно 9,2. Ну а ў краіне, дзе кантралюецца не толькі зброя, але і кожны ўздых, у КНДР, ажно 15,2. Так што асабіста я не бачу сувязі паміж вольным продажам зброі і колькасцю забойстваў.

— Але ж хваля супраць свабоднай продажы зброі ўжо паднялася, — здзіўлена кажа журналістка, з жахам разумеючы, што са мной яна страціла час. — Нават у амерыканскіх Сенаце і Кангрэсе гэта падымаецца. І трэба быць у трэндзе. А вы гаворыце не так, як трэба.

— Ну я супраць раззбраення свабодных людзей, — смяюся. — Бо пасля раззбраення наступны крок гэта палон. А вы ведаеце, што адной з мэт тэрарыстаў і ўвогуле злачынцаў і ёсць акурат раззбраенне насельніцтва?

І тут дзяўчына канчаткова зразумела, што беручы інтэрв'ю ў мяне на гэтую тэму яна журналісцкага імя хутка зрабіць не зможа. І зноў, не абцяжарваючы сябе правіламі этыкету, развярнулася і пайшла, не развітаўшыся.

Ну а я не паленаваўся адшукаць у сеціве яе матэрыял. Усе сто адсоткаў апытаных там былі за ўзмацненне кантролю над продажам зброі ў Амерыцы. Маіх слоў, зразумела, там не было. Як і пра акцыю супраць смяротнага пакарання таксама нічога не было. Не папулярная гэта тэма. На ёй імя не зробіш.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Абсалютна

«Вялікія людзі амаль заўсёды дрэнныя людзі». Гэта меркаванне вядомага Лорда Актон, брытанскага палітычнага філосафа і тэарэтыка XIX стагоддзя. Ні ў якім разе, аднак, не кірую яду, які змяшчаецца ў гэтым сказе, на сучасных палітыкаў. Хоць, калі паставіць у адзін шэраг Качынскага, Лукашэнку і Орбана, а ў другі Сталіна, Гітлера і Пуціна, іх фактычная велічыня была б зусім вымерная, але і зло, якое распаўсюджвалі або распаўсюджваюць па ўсім свеце было б як мага больш рэалістычным. Толькі што зло — непараўнальнае. Няма большага і меншага зла. Зло аднолькавае. У той час як веліч не змерыш. Як Качынскага параўнаць да Аляксандра Македонскага? Апошнія, як Напалеон, маюць знакавую велічыню, яны пакінулі глыбокі след у гісторыі цывілізаванага свету. Тое, што ён балючы, іншая справа. Падобна як Ленін, хітра схаваны за сталінскімі злачынствамі. Усе яны мелі, па-мойму, негабарытнае эга. Або ў якасці альтэрнатывы, пераразлую прадсталёвую залозу. Усе гэтыя асобы з'яўляюцца спрэчнымі. Для некаторых выдатнымі, увасабленнем зла — для іншых. У гэтай кампаніі таксама апынуцца ідэалагічныя псіхапаты ці сацыяпаты другой паловы XX стагоддзя, Мао Зедонг у Кітаі і чырвонакхмерскі крывавжэр Пол Пот у Камбоджы. Але і румынскі дыктатар Чаўшэску і лівійскі Кадафі. Тыя вышэйзгаданыя, і тыя аднолькава вялікія ў сваіх хворых амбіцыях і дробныя ў пачынах, нягодныя адной друкаванай літары на газетнай паперы, заўсёды выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць ідэалогію. Заўсёды таксама з аўтарытарнай пазіцыі. Заўсёды з прэтэнзіяй на «ўсёведнасць».

Як гэта ёсць, што яны захаплялі або захапляюць за сабой масы людзей? Ці проста хітра скрыўляюць іх рацыянальную оптыку, крыўляючы ў калектыўным мозгу рэальнасць, факты, праўду так, што індывідуальны крытыцызм, прыватна чалавечныя і рацыянальныя сумненні не ў стане прарваць легкадумнае стаўленне шырокай грамадскасці, у якой кожны з нас — на шчасце, у той жа час на жаль — асобная і супольная частка? Дык якое гэта стаўленне? У нечым шызафрэнічнае. І пасіўнае, і актыўнае. І ў адзінках, і ў супольнасці. Яно пасіўнае на інтэлектуальным узроўні, актыўнае — на эмацыйным. Першае патрабуе лагічных аргументаў, прымушае да інтэлектуальных аперацый; яно заснаванае на ведах і адукацыі, якая ў рэшце рэшт не прыходзіць лёгка, але ў выніку паглыбляе роздум і ўзмацняе пазнавальны крытыцызм. Праблема ў тым, што мы па сваёй прыродзе гультаяватыя. Лягчэй нас прымусіць да любога роду працы, чым мозг для эфектыўных высілкаў. Лягчэй размахваць муміфікаванай ступенню магістра, чым пашырыць інтэлектуальныя гарызонты праз пастаянную самаадукацыю. Прасцей выказаць сваю думку, даверыўшы меркаванню большасці, чым свайму ўласнаму. Лягчэй быць у натоўпе, чым перад натоўпам. Другое стаўленне абыходзіцца без цэрэбральнай шэрай масы, выцякае з першасных крыніц чалавецтва, з яго інстынктаў і страхаў. Яно бліжэй да прыроды, чым незалежны розум, які занадта часта губляе арыентацыю ў глыбокім цяні яе таямніц. Эмоцыі з'яўляюцца іх артыкуляцыяй. Таямніцы прамаўляюць галасам, які, нічога не называючы, рэжа ў чалавечай свядомасці матэрыяльныя сляды гукаў. Нічога, што гучаць яны бессэнсоўна, калі асвойваюць з невядомым, ствараючы ілюзію ведаў? Таму мы пасіўныя і актыўныя, удумлівыя і легкадумныя. Індывідуальна, і калектыўна. Але такое двайное стаўленне асобных асоб, і грамады адкрывае дазвол для цынічнага палітыканства, ідэалогіі таталітарызму, запору ў поглядах. Для кіраўніцтва палітычных круцялёў і самазванцаў, рэлігійных інквізітараў, псіхапатаў і сацыяпатаў — словам, маленькіх людзей з вялікай гіпертрафіяй прастаты і ганарлівасцю. Чаму якраз для такіх? А чорт іх ведае! Але справа ў тым, што ўсе гэтыя збавіцелі нацыі, правадыры мас, уладальнікі душы заўсёды выкарыстоўваюць магутны інструмент маніпуляцыі — ідэалогію. Гэта зусім не азначае, што ідэалогія як такая з'яўляецца закваскай усякага зла. «Ідэі і ідэалогіі, — піша брытанскі палітолаг А. Гейвуд, — [...] забяспечваюць перспектыву, праз якую свет магчыма зразумець і растлумачыць. Таму што людзі не ўспрымаюць свету такім, якім ён ёсць, але такім, якога яны чакаюць. Інакш кажучы, яны бачаць яго праз прызму прыроджаных вераванняў, меркаванняў і здагадак. А, як сказаў Лорд Актон, «улада разбэшчвае, а абсалютная ўлада разбэшчвае абсалютна». Абсалютна. Гэтае слова — ключ да сучаснасці.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# КАСЦЮШКА – польскі і амерыканскі? Абы не беларускі!

Кожны турыст ці замежнік, які прыязджае ў Беласток, ведама, што трапіць на Рынак Касцюшкі. Таксама і самі беластачане вельмі любяць сюды прыходзіць. Ганарацца яны перабудовай Рынку перад сваімі гасцямі. Апрача рэстаўрацыйна-адпачынковай інфраструктуры, маем тут банкі, музей, гасцініцу, кнігарні, а таксама канцэртнае месца для гарадскіх музычна-культурных мерапрыемстваў. Адным словам Рынак выконвае закладзеную яму ўрбаністычную функцыю і адначасна парадкуе цэнтр горада ды інтэгруе грамадскасць. Значыць, ад вясны да восені гэтае месца не толькі жыве, але гудзе да позняй начной пары, асабліва ў выходныя. Дзеля парадку і важнасці гэтага месца абавязкова выпадае згадаць яшчэ канцэрт на зломе старога і новага года, на якім сустракаюцца людзі, каб павіншаваць сябе з новым годам. Аднаго аднак не хапае ў прасторы гарадскога жыцця Беластока. Менавіта патрона Рынку — значыць помніка ці біюсту Тадэвуша Касцюшкі.

Шмат гістарычных ушанаванняў з'явілася ў Беластоку пасля 1989 года. На Рынку яшчэ перад перабудовай усёй плошчы стаяў помнік Юзэфу Пілсудскаму, які быў адсюль перанесены пад недалёкі дзяржаўны архіў. Перанос быў гарадскімі ўладамі закладзены ў архітэктурную планіроўку дзеля пабольшання прасторы Рынку. Разам з пераносам помніка Пілсудскаму былі і высечаны многія дрэвы і кусты, што нават пэўны час выклікала абурэнне некаторых абаронцаў прыроды. Але і яны хутка змірыліся са зменамі, бо дзякуючы таму адчулі сябе жыхарамі вялікага горада, а не задрыпанага, правінцыйнага мястэчка з кустамі ў цэнтры, у якіх з палёгкай для сябе часта здымалі пузырны ціск аматары піўца на прыродзе і карыстальнікі рынычных забягалак. Адным словам ніхто на шкадаваў адышоўшага свету.

Неабходна ўзгадаць адну дэталь гэтай справы. Калі вяліся грамадскія спрэчкі накот таго, дзе найлепей быць перанесенаму помніку Юзэфу Пілсудскаму, то ўвогуле не было шырокай грамадскай задумы і кінутай у народ і ўладам ідэі пабудовы помніка Тадэвушу Касцюшку — супольнаму герою палякаў, беларусаў і амерыканцаў. Ну і зразумела, што адпаведна грамадзянскасці такой прапановы, надпісы на помніку мелі б быць на мовах вышэйзгаданых нацый. Гаварылася пра гэта ў кругах мясцовай польскай і беларускай інтэлігенцыі, аднак ідэя не выйшла па-за сферу класічных, інтэлігенцкіх балаканняў за куфлем піва ці бакалам віна. Ідэя пабудовы помніка, паводле яе задумшчыкаў, мела служыць польска-беларускаму дыялогу і партнёрству як паміж дзяржавамі, так і народамі, прытым самае галоўнае — помнік павінен садзейнічаць паразуменню паміж падляшскімі палякамі і беларусамі. Вялікую важнасць гэтай ідэі павышаў факт, што сам жа Касцюшка з'яўляецца ўраджэнцам суседняй з нашым рэгіёнам Берасцейшчыны. Шкада, што гэтая ідэя не здзейснілася напрыканцы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя.

Думаю, што тады ўзнікненне помніка Касцюшку ў Беластоку перарэзала б шэраг непатрэбных напружанасцей і складанасцей у сённяшнім рэсентыментальным, агістарычным падыходзе некаторых польскіх няўрадавых арганізацый і дзяржаўных ведамстваў, адмаўляючым прызнання, што сам герой з'яўляецца ўраджэнцам беларускай зямлі. Быццам бы і няма сёння геаграфічных межаў беларускай дзяржавы. Такім чынам права ганарыцца ім і нам, беларусам, набыла вастрыню ў кантэксце дзеяння польскага пасла ў Швейцарыі, які рэзка выступіў супраць ініцыятывы пражываючай там беларускай дыяспары, якая за ўласныя грошы хацела адкрыць помнік Касцюшку з надпісамі на беларускай і нямецкай мовах. Незразумелы пратэст польскага амбасадара выклікаў хвалю абурэння і абмеркавання польскай палітыкі ўсімі беларускімі асяроддзямі. Пра рэакцыю нас, беларусаў Падляшша, прачытаеце больш на восьмай старонцы ў інтэрв'ю са старшынёй Беларускага гістарычнага таварыства прафесарам Алегам Латышонкам і ў ягоным звароце да прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды.

**Яўген ВАПА**

# Напісалі іконы ў свой дом



■ Выставу ікон адкрылі айцец Андрэй Буслоўскі і айцец Павел Забродзкі (справа)



З паўвострава Афон прывозяцца ў цэрквы Польшчы іконы, якія пісалі манахі з пастаяннай малітвай. Іконы заказваюцца ў іканапісцаў за нашай усходняй мяжой і ў Пасляліцэйнай іканапіснай школе ў Бельску-Падляшскім, а пішуць іх таксама выпускнікі іканапісных школ, сярод якіх ёсць іерэй Павел Забродзкі. У Гайнаўскім белліцэі іканапісным кружком апякуецца настаўнік гэтай школы Міхал Юшчук, які сам здаўна піша іконы. Былая ўдзельніца белліцэйскага кружка Барбара Смосна і протаіерэй Андрэй Буслоўскі, апякун кружка Брацтва праваслаўнай моладзі, які дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і заадно настаўнік Божага закона ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пасадзейнічалі, каб у памяшканні брацтва арганізаваць майстар-класы па пісанні ікон, якія вёў іканапісец іерэй Павел Забродзкі. Прынялі ў іх удзел вучні пачатковых, гімназічных, звышгімназічных школ і студэнты, разам 20 асоб. Самую вялікую колькасць саставілі вучні і выпускнікі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Паразмаўляў я з імі падчас адкрыцця выставы пісаных падчас майстар-класаў ікон у гонар дзіцяткі мучаніка Гаўрыіла. Адбылося гэта 27 верасня ў Гайнаўскім доме культуры, у дзень Узвдзіжання Крыжа Гасподняга.

Майстар-класы па пісанні ікон, якія праходзілі з 11 па 15 верасня, вёў іерэй Павел Забродзкі, які раней быў вікарным святаром Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, але быў пераведзены ў Міхайлаўскі прыход у Бельску-Падляшскім, дзе стаў намеснікам дырэктара Пасляліцэйнай іканапіснай школы ў Бельску. Айцец Павел — іканапісец, выпускнік іканапіснай школы. Выставу ікон напісаных у гонар святога дзіцяткі Гаўрыіла дапамагалі падрыхтаваць у ГДК інструктары мастацтва Зінаіда Якуць і Анна Тарасюк. Падчас адкрыцця экспазіцыі айцец Андрэй Буслоўскі і айцец Павел Забродзкі падвялі вынікі майстар-класаў па пісанні ікон. Сярод сабраных былі кіраўнік Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы протаіерэй Павел Стэрлінгаў, метадыст па навучанні Божага закона матушка Лілля Буслоўская, працаўнікі фабрыкі «Фортэ» ў Гайнаўцы, маладыя іканапісцы і зацікаўленыя пісаннем ікон гайнаўяне. Іконы з выставы будуць асвячаца ў гайнаўскім саборы і маладыя іканапісцы забяруць іх дамоў.

***— Ікона гэта акно на Божы свет, у вечнасць. Маладыя асобы, якія прыступілі да майстар-класаў па пісанні ікон, моцна ангажаваліся, уклалі многа працы і сэрца, каб паўсталі іх першыя іконы. Моладзь узбагаціліся духоўна і вучылася ўражлівасці на мастацтва. За кароткі перыяд я мусіў пазнаёміць сабраных на майстар-класах з тэорыяй пісання ікон і вучыў іх як гэтыя веды прымяніць на практыцы. Калі б было больш часу, можна было б ад падстаў навучыць рыхтаваць дошку да пісання на ёй іконы. Аднак у нашым выпадку такія дошкі былі ўжо падрыхтаваныя загадзя, каб адразу можна было пачынаць пісаць іконы. Падчас нашых сустрэч маладыя асобы вучыліся цярплівасці і моцна ангажаваліся, каб за кароткі час напісаць іконы. Спачатку складана было ім цярпліва чакаць ажно засохне фарба, каб на яе можна было класці чарговы пласт фарбы. Кожныя заняткі пачыналіся з супольных малітваў, бо гэта неабходнае падчас пісання ікон. Я думаю, што падчас нашых майстар-класаў удалося прывіць маладым асобам цікавасць да пісання ікон і можа нехта з моладзі схоча вучыцца пісаць іконы ў Пасляліцэйнай іканапіснай школе ў Бельску,*** — сказаў падчас адкрыцця выставы ў Гайнаўскім доме культуры іерэй Павел Забродзкі.

***— Айцец Павел падчас майстар-класаў з вялікай ангажаванасцю перадаваў нам свае веды і дзяліўся з намі іканапіснымі ўмеласцямі. Паказаў нам асаблівую дарогу да Хрыста іканапісца, які разгортвае свае мастацкія здольнасці і дар малітвы, вучыцца пакоры, цярплівасці і сустракае Божую любоў. Іканапісец здабывае спакой, чэрпае радасць, дабро і адчыняе сваё сэрца на Бога і другога чалавека. Гэтыя майстар-класы перамянілі нас усіх. Мы не толькі многаму навучыліся, але таксама лепш пазнаёміліся і стварылі асаблівыя сувязі ў нашай групе, якая займалася іканапісаннем. Калі мы пісалі іконы, дапамагалі нам айцец Андрэй Буслоўскі, матушка Лілля Буслоўская і працаўніца Фабрыкі мэблі «Фортэ» ў Гайнаўцы Барбара Смосна, якая вучылася пісанню ікон у іканапісным кружку ў нашым белліцэі і магла ўспамагчы нас таксама парадамі ў галіне іканапісання,*** — распавядала вучаніца Гайнаўскага белліцэя і заадно карэспандэнтка «Нівы» Наталля Васько, якая першы раз пісала ікону.

***— Я рада, што запісалася на майстар-класы, дзе не толькі бясплатна вучылася пісаць ікону, але ў свой дом занясу напісаную мною ікону святога дзіцяткі Гаўрыіла, патрона Брацтва праваслаўнай моладзі, да якога буду маліцца,*** — заявіла выпускніца Гайнаўскага белліцэя Паўля Шыманюк, зараз студэнтка Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

***— Падчас пісання ікон была малітва, спакой. Застануцца ад майстар-класаў незабыўныя ўражанні і можа будзе яшчэ магчымасць напісаць ікону ў будучні,*** — гаварыла Дар'я Шыманюк, малодшая сястра Паўлі, таксама вупускніца белліцэя і студэнтка Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

***— Айцец Павел вучыў і паказваў як правільна пісаць ікону, што было вельмі важным, калі мы першы раз яе пісалі. Ён нам у многім дапамагаў падчас пісання ікон, а нам трэба было моцна ангажавацца, каб трымацца канонаў іканапісу,*** — сказала Юстына Іванюк, студэнтка Універсітэта ў Беластоку, у мінулым гайнаўская белліцэістка.

***— Працаўніца Фабрыкі мэблі «Фортэ» ў Гайнаўцы Барбара Смосна, у мінулым вучаніца нашага Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, запрапанавала Брацтву праваслаўнай моладзі арганізаваць дзейнасць у рамках Праграмы «Формула — Фабрыка ініцыятыў», якая дзейнічае ў фабрыках мэблі «Фортэ» ў Польшчы. Праграма дазваляе працаўнікам фабрыкі «Фортэ» хадайнічаць за сродкамі на арганізацыю розных ініцыятыў, накіраваных на мясцовых жыхароў у галіне адукацыі, культуры, мастацтва, спорту, рэкрэацыі, прамавання здароўя, экалогіі і выраўноўвання адрозненняў у грамадствах. Працаўнікі могуць запрашаць да ўдзелу ў праграме мясцовыя арганізацыі і ўстановы. Я запрапанаваў Барбары Смосне супольна з працаўнікамі фабрыкі «Фортэ» ў Гайнаўцы наладзіць майстар-класы па пісанні ікон, якіх не было яшчэ ў Гайнаўцы ў шырэйшым маштабе, чым кружок пісання ікон у Гайнаўскім белліцэі. У рамках супольнага праекта мы заказалі дошкі, падрыхтаваныя да пісання ікон, купілі адпаведныя фарбы, пэндзлі, матэрыялы патрэбныя да пісання ікон і атрымалі яшчэ мэблю да памяшкання брацтва. Паколькі патронам маладзёжнага брацтва з'яўляецца дзіцятка мучанік Гаўрыіл, мы супольна рашылі, што моладзь будзе пісаць іконы ў яго гонар,*** — распавядаў каардынатар майстар-класаў протаіерэй Андрэй Буслоўскі, духоўны апякун гайнаўскага гуртка Брацтва праваслаўнай моладзі і заадно настаўнік Божага закона. Брацтва разам з працаўнікамі Фабрыкі «Фортэ» і Свята-Троіцкім прыходам былі арганізатарамі майстар-класаў па пісанні ікон.



***— Мы кожны дзень спатыкаліся ў шаснаццаць гадзін і займаліся па тры гадзіны. Маладыя іканапісцы так уцягваліся ў пісанне ікон, што нават заставаліся даўжэй, каб выканаць запланаванае. Моладзь умела выкарыстоўвала тэарэтычныя веды, а я падказваў ім як трэба правільна пісаць іконы і дапамагаў справіцца з праблемамі,*** — гаварыў айцец Павел Забродзкі.

***Каб напісаць іконы, патрэбная была засяроджанасць і Божая дапамога, за якую мы маліліся. Мы моцна ангажаваліся, каб напісаць твар святога дзіцяткі згодна з канонамі іканапісу. Накладалі чарговыя, штораз святлейшыя пласты фарбы і звярталі ўвагу на рысы твару,*** — сказалі Аляксандра Юрчук, вучаніца Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы і гайнаўская белліцэістка Аляксандра Буслоўская.

***— Пісанне ікон навучыла нас пакорліва пераадольваць складанасці. Хіба найбольш складана было напісаць твар мучаніка дзіцяткі Гаўрыіла, каб на ёй было відаць Яго святасць,*** — заявіла Эмілія Ажахоўская з Гайнаўкі.

Мучанік дзіцятка Гаўрыіл з'яўляецца блізкім святым для праваслаўных дзетак і моладзі ў Польшчы і Беларусі, да якога яны моляцца, звяртаючыся з просьбамі, каб хадайнічаў у Бога за дапамогу ў розных жыццёвых выпрабаваннях.

***— Усё было цікавым падчас пісання ікон, а ў апошні дзень майстар-класаў мы дапрацоўвалі дэталі на іконах. Хаця мы ўсе пісалі ікону гэтага самага святога дзіцяткі Гаўрыіла, то кожная ікона крышку іншая, бо кожны з нас уклаў у яе частку сябе. Мы былі духоўна шчаслівымі і радаваліся напісанню першай у жыцці іконы з дапамогай айца Паўла Забродзкага,*** — заявіла белліцэістка Наталля Васько.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Дэмаграфія Дубіцкай гміны

Зараз Дубіцкая гміна Гайнаўскага павета налічвае 1 558 асоб (напрыканцы 2015 года тут пражывалі 1 633 чалавекі). Яна хутка абязлюджваецца. У гміне 28 вёсак і вёсачак, у тым ліку 17 салэцкіх. Шчыльнасць насельніцтва 11 чалавек на 1 квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны. Зараз 14% жыхароў гэта ўдаўцы і ўдовы. Удоў значна больш чымсьці ўдаўцоў.

Да найбольшых і сярэдніх вёсак належаць Дубічы-Царкоўныя — 241 жыхар, Грабавец — 240, Ягаднікі — 152, Тафілаўцы — 131, Стары Корнін — 115, Карыцісгі — 95, Чахі-Арлянскія — 79, Вітава — 78, Вэрсток — 60, Елянка — 52 і Войнаўка — 48. Ад 10 да 40 жыхароў маюць вёсачкі Краскоўшчына — 10, Пяскі — 12, Сямівалокі — 14, Бобінка і Пасечнікі-Малыя — па 16, Старына — 18, Вілюкі — 22, Доўгі Брод — 23, Гурны Груд — 24 і Рутка — 36.

Самых маленькіх паселішч у Дубіцкай гміне шэсць: Забагонне — 9 жыхароў, Кругле — 5, Выган, Клякава і Нікіфароўшчына — па 2 і Якубова — 1 жыхар.

На працягу двух гадоў па дзевяць чалавек памерла ў Грабаўцу і ў Старым Корніне, сем у Чахах-Арлянскіх, шэсць у Дубічах-Царкоўных, чатыры ў Рутцы, тры ў Істоку, па два ў Вітаве, Вэрстоку, Доўгім Бродзе, Карыцісках, Клякаве, Пясках, Старыне, Сямівалоках і ў Тафілаўцах. Ніхто не памёр у Войнаўцы, Забагонях, Круглым, Елянцы і ў Якубове. У Гурным Грудзе прыбыло шэсць жыхароў, у Істоку тры ды ў Тафілаўцах і ў Вітаве па два.

У 2017 годзе ў Дубіцкай гміне нарадзілася 10 дзяцей, памерла 31 асоба і 12 пар святкавала 50-годдзе шлюбнага супольнага жыцця (у мінулым годзе 9 пар). Залатое вяселле згулялі Надзея і Аркадзь Данілюкі, Марыя і Уладзімір Нестэрукі, Люба і Ян Семенюкі ды Ніна і Сяргей Тамашукі з Чахоў-Арлянскіх, Марыя і Уладзімір Дунды з Вэрстока, Валянціна і Сцяпан Катушэўскія, Марыя і Павел Леанюкі ды Анна і Ян Рута з Грабаўца, Люба і Ян Міхалюкі з Карыцісак, Ніна і Рыгор Нічыпарукі з Елянкі, Надзея і Мікалай Невядомскія з Істока ды Марыя і Мікалай Рыбакі з Тафілаўцаў. Усе вышэйзгаданыя пары атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё" ад прэзідэнта РП. Сардэчна віншуем усіх юбіляраў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Міра ЛУКША

## Роднае

Нашым бабулям і нашым дзядулям
Каб жыць найменш сто гадоў,
Цешыцца дзецьмі, унукамі, сонцам
Спявайма ўсе тут гурбой.

Чакаюць нас там, у вёсцы ў хатцы,
Глядзяць у акно дзень і ноч.
Не спіцца бабулі, сумуе і плача,
Вось колькі наплакала слёз.

За сына, дачку, за ўнука, праўнучку,
Што лёс у іх не такі,
Як марыла маці, трымаўшы за ручку,
Вядучы ў свет жорсткі такі.

Стараемся, мама, стараемся, тата,
Каб больш не бачыць тых слёз.
За грэх і зласлоўе такая заплата,
Такі горкі, праведны лёс.

Вярнуцца хоць раз нам у тыя хвіліны...
Вяртацца часцей у наш дом,
У якім правялі мы дзяцінства гадзіны,
У дарогу забралі мы ўсё.

Каб зведаць усё гэта, што ў свеце цікава,
Ляцелі з гнязда мы да зор.
А з неба ўпасці – няцяжкая справа.
Каб толькі на родны парог!



# Сакратаў дуб

**У рамках арганізаванага пятнаццаты ўжо раз «Свята дрэва» перад хатай славутага пісьменніка Сакрата Яновіча ў Крынках пасадзілі дуб. Тая сімвалічная акцыя мела не толькі прычыніцца да папулярызацыі экалагічнай справы, але перш за ўсё засяродзіць увагу на асобе Сакрата Яновіча. Чарговы раз той выклік прыняў Фонд «Villa Sokrates», і чарговы раз ім гэта атрымалася.**





### Цвёрды як Сакрат

11 кастрычніка на панадворку Сакрата Яновіча пачаў новае жыццё дуб вышынёю ў некалькі метраў. У пасадцы дрэва прысутнічалі ўлады гміны, мясцовага асяродка культуры, прадстаўнікі лясніцтва і прапагандысты спадчыны Яновіча. Кожны меў больш ці менш ўдзел у акцыі пасадкі дуба ў гонар Яновіча. Журналіст Мікола Ваўранюк звярнуў увагу на тое, што менавіта само аб'яднанне людзей з розных асяроддзяў ужо з'яўляецца вялікім поспехам.

— Гэты дуб напэўна будзе напамінаць Сакрата Яновіча, — адзначыў сакратар Крынкаўскай гміны Ежы Цітко. — Гэтая вуліца, дом — вядомыя ў Крынках. Можна сказаць, што ён з'яўляецца цэнтрам Крынак. Той вялікі дуб напэўна таксама будзе напамінаць Сакрата.

10 кастрычніка адбылася ўрачыстая агульнапольская інаўгурацыя «Свята дрэва». Яе ініцыятарам з'яўляецца Яцэк Божык, старшыня арганізацыі «Klub Gaja».

— Вельмі цешуся запрашэннем ад Фонду «Villa Sokrates», — сказаў Яцэк Божык. — Тым больш, што ўчора мы адзначалі свята дрэва. Гэта ўжо 15 выпуск і за той час мы пасадзілі больш за 15 тысяч дрэў. Больш за 600 тысяч людзей прымае ўдзел у нашай акцыі, але я яшчэ ў такім месцы не быў. Я вельмі ўзрушаны.

Ніхто не пашкадаваў "святочнай" вопраткі і ўключаўся ў не кароткі працэс усталявання дуба перад хатай пісьменніка. Аднак не пра вынаходлівасць прысутных мужчын, а пра сілу і непахіснасць Сакрата Яновіча мае нагадваць дрэва вышынёю ў некалькі метраў.

— Добра, што маем гэты дуб, што ён расце. Мне цікава, як гэта на вясну будзе, — кажа ініцыятар і старшыня Фонду «Villa Sokrates» прафесар Лявон Тарасэвіч. — Як пойдзе новае лісце, як пачне жыць такое дрэва, бо дуб мае такую асаблівасць, што ён разрастаецца ўшырыню. Калі малады, то гэта не відаць яшчэ. Але думаю, будзе мець сваю своеасаблівасць і напэўна будзе такі ж самы цвёрды як Сакрат.



### Дуб — моцнае дрэва

Дуб у беларускай культуры лічыўся моцным дрэвам, энергетыкам, аб чым сведчаць, між іншым, выказванні старажылаў, якія спісвала ў час палявых даследаванняў магістр Ганна Шарэнда.

*Маці казала, што дрэвамі можна лячыцца. Яна гаварыла пра ласкавасць дуба. Усе мы пастаялі каля багатыра і пачалі прасіць здароўя. Дуб прыдае сілу, здароўе, бо ён сам крэпкі і здаровы. Старыя людзі, калі ўбачаць дуб, ніколі не мінаюць яго. Трэба падысці да яго, пакласці рукі і сказаць: «Дуб-дубочак, мой галубочак, дай мне сілу ў ножкі, у ручкі, у плечы». Пастаяць трохі і пайсці.* (Запісана ў вёсцы Майсеевічы Петрыкаўскага раёна ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 года нараджэння).

*Дуб — сімвал жызні. У ім затоена свяшчэнная сіла. Ён ахоўвае ўсе дрэвы. Дуб — цар сярод дрэў.* (Зап. у в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г. н.).

Паколькі сёння неапаганства распаўсюджваецца перш за ўсё ў прыбалтыйскіх краінах, магчыма гэты трэнд, тая філасофія вернецца і на Падляшша. Тады моцны Дуб-Сакрат, прывезены з Вейгерова, кормлены крынкаўскай зямлёй, будзе збіраць просьбы і малітвы. Але і памяць пра Сакрата Яновіча таксама не прападзе, між іншым, таму, што дзейнічае Фонд «Villa Sokrates»,які неўзабаве выпускае паэтычную прозу пісьменніка з Крынак у форме аўдыёкнігі. Як адзначыў ініцыятар праекта прафесар Лявон Тарасэвіч, „Мініяцюры" запачаткуюць серыю сабраных твораў Сакрата Яновіча.— Ужо начытана. Будзем выдаваць. Гэта будзе першая аўдыёкніга. А пасля будзем выдаваць і іншыя кнігі. Мы гэта робім перад усім таму, што гэта нам прыемна і нам патрэбна.

„Мініяцюры" Сакрата Яновіча для аўдыёбука зачытаў пісьменнік і радыёжурналіст Міхась Андрасюк.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

# Пачынаць з нуля жыццё!

*Вайна, карупцыя, дыктатура ці невысокія зарплаты нярэдка прымушаюць да міграцыі. Людзі пакідаюць бацькаўшчыну, каб фінансавы баланс не выходзіў на нуль. Польшча, гэта найбліжэйшая еўрапейская краіна як для беларусаў, так і суседзяў з-за Буга. Само Падляшша, хаця не багатае на фоне іншых рэгіёнаў Польшчы, беручы пад увагу блізкасць, з'яўляецца ідэальным месцам для новага, лепшага жыцця. Менавіта і ў самім Беластоку штораз часцей можам карыстацца паслугамі, якія прапануюць нам прадпрымальнікі з Усходу.*



**Цяжкатраўныя абставіны і смачная кухня!**

Некаторыя спецыялісты па эканоміцы называюць Беларусь Кітаем Еўропы. Менавіта тут сярэдняя зарплата складае 700 рублёў (1400 злотых). Таму не здзіўляе факт, што беларусы з'язджаюць за працай у іншыя краіны. Яшчэ да нядаўна найчасцей выбіралі Расію, аднак сёння таксама ахвотна прыязджаюць у Польшчу. Вядома, істотнай перашкодай для грамадзян гэтай краіны з'яўляецца іх міграцыйная палітыка, якая патрабуе, сярод іншых, атрымання дазволу на працу. Бывае, што з боку польскіх працадаўцаў выкананы ўсе фармальнасці, але тэма затрымалася на беларускім баку. Такая сітуацыя здарылася сябру Сашы Стасевіча, які па гэтай прычыне не змог уладкавацца на працу ў Беластоку. Застаўся ў Ваўкавыску. Сам Саша вырашыў заснаваць невялічкі, але свой першы бізнес у Польшчы. Запал да кулінарыі быў у яго з маленства. Часта варыў для сваёй сям'і стравы, якія не патрабуюць дарагіх прадуктаў і складаных працэдур. Варыў беларускія стравы, якіх навучыўся ад маці і бабулі. Саша палічыў, што тыя могуць таксама заспакоіць кулінарныя фанабэрыі жыхароў недалёкага Беластока. І так ад верасня па вуліцы Юравецкай адкрылася будка з беларускімі ласункамі робленымі хлопцам з Ваўкавыска.

— Чэбурэкі, пельмені беларускія, дамашні боршч, — кажа Саша. — Добра пайшлі чэбурэкі, людзі паспрабавалі. Спачатку ладзіў дармовыя дэгустацыі, людзям спадабалася, цяпер набываюць. Не ведаю, колькі сябе памятаю, заўсёды я ўмеў гатаваць, мама навучыла. Ад бабулі навучыўся рабіць пызы, клёцкі, а так у асноўным усё ад мамы.

Хаця першапачаткова Саша хацеў засярodзіцца выключна на беларускай кухні, усё-такі разнастайныя кіенты мікрасвету вуліцы Юравецкай патрабавалі таксама кэбабаў, сэндвічаў і хот-догаў.

— Хаця гэта невялікі бізнес, усё-такі трэба было мне ў яго заінвеставаць. Як для мяне, немалую суму грошай, — кажа Саша. — Першапачаткова нават марыў аб нейкім невялікім рэстаране, але ў Беластоку даволі высокія кошты найму.

Хаця па афіцыйных даных праблема беспрацоўя не існуе ў Беларусі, Саша не бачыць перспектывы для сябе на бацькаўшчыне.

— Я мог бы працаваць ахоўнікам пры турэмшчыках, але не хачу, — тлумачыць Саша. — Я ведаю, што гэта за праца. Вы нават не разумееце абсурду, з якім нам трэба мірыцца. Варыць люблю, гэта мая страсць.

Саша ў Ваўкавыску пакінуў жонку і свайго сыночка. Сумуе па іх, але ўтрымлівае пастаянны кантакт. Усе яны разлічваюць на гэта, што Беласток стане месцам не толькі іхняга бізнесу, але магчыма ў будучыні таксама месцам жыцця.

**Украінскі «Монстэр» у Беластоку**

Замежная мова, іншыя законы і перш за ўсё складанасць працэдур звязаных з рэгістрацыяй свайго прадпрыемства ў Польшчы — гэта галоўныя цяжкасці, з якімі сутыкаюцца прадпрымальнікі з іншых краін, у тым ліку з Украіны. Хаця пасля дэманстрацый, якія мелі месца ў 2013-2014 гадах ва Украіне, няўрадавыя арганізацыі дапамагаюць ахвотным пачаць свой бізнес у Польшчы. Мікола Ішчук супольна з жонкай і бацькамі з'ехаў у Беласток у 2015 годзе. Іх родны горад Данецк, заняты сепаратыстамі, перастаў быць спакойным месцам для жыцця. Паводле Міколы цяжкая сітуацыя ў Данецку пачалася са жніўня 2015 года, калі пасля абвяшчэння перамір'я некалькі тысяч сепаратыстаў напала на вёску Марынка пад Данецкам.

— Барацьба за так званую прамысловую зону безупынна працягваецца ад году, — кажа Мікола. — Тут менавіта знаходзіцца шмат прамысловых прадпрыемстваў, якія сепаратысты прабуюць заняць.

Мікола завяршыў вучобу ў політэхнічным інстытуце ў Данецку. Пасля вучобы супольна з бацькам вёў аўтамайстэрню, якая была крыніцай даходу цэлай сям'і. Майстэрню занялі. Таксама жыццё ў пусцеючым Данецку не мела сэнсу. Сям'я Ішчукоў вырашыла пачаць ад пачатку здаля ад вайны і гора, якое бачылі.

— Усё нам забралі, — кажа Мікола. — Няма ніякіх кампенсацый, проста нам трэба было пачынаць амаль з нуля.

Ішчукі перабраліся ў Беласток. Тут ужо раней з'ехаў таксама іхні знаёмы, які рэкамендаваў Беласток на новае месца жыцця. Сёння аўтамайстэрня «Монстэр» працуе пры вуліцы Ацтовай і анансуецца на сайтах як майстэрня, якая спецыялізуецца ў рамонце старэйшых марак машын.

Мікола і яго бацька, таксама Мікола, выдатна размаўляюць на польскай мове. Не больш за два гады заняло ім яе вывучэнне з прафесійнай лексікай.

— Не маем праблемы, — кажа Мікола-юніёр. — Хаця з польскай мовай папраўдзе сутыкнуліся толькі тут, у Польшчы, трэба было яе хутка вывучыць, каб не траціць і не знеахвочваць кліентаў.

У аўтамайстэрні «Монстэр» працуюць не толькі спецыялісты з Украіны, але таксама з Польшчы. Кліенты могуць разлічваць на сумленны рамонт аўто, паколькі, як падкрэслівае Мікола, цэлы час працуюць на гэта, каб іх майстэрня стала вядомай і праверанай жыхарамі Беластока.




■ У варштаце Міколы працуюць перад усім грамадзяне Украіны



**Культурна блізкія**

Сёння спалучае нас даўжэзная мяжа, але і сотні гадоў супольнай гісторыі. Польшча з'яўляецца варотамі для людзей з Усходу ў Еўрасаюз так, як у 90-х гадах XX стагоддзя Нямеччына была для Польшчы. А самі беларусы, як і ўкраінцы натуральна ўпісваюцца ў каларыт Падляшша.

❖ Уля ШУБЗДА

## Чаму так рамантуюць?

Ваяводская дарога № 687 бяжыць з Навасадаў у Юшкаў Груд цераз Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. У пачатку кастрычніка гэтага года рамантавалі яе маставую на невялікім адрэзку. Дайшлі з напрамку Бандароў амаль да скрыжавання гэтай дарогі з павятовай дарогай у Новым Ляўкове і неўзабаве з'ехалі.

Адрэзак артэрыі, які рамантавалі, не быў такі ўхабісты як у Новым Ляўкове едучы ў напрамку вёскі Плянта і далей у Нараўку. На адрэзку ваяводскай дарогі ад моста на рачулцы Баброўка да чыгункі ў Плянце паставілі папераджальныя дарожныя знакі сёлетняй вясною ды чамусьці цяпер абмінулі ды пакінулі гэты кіламетровы кавалак дрэннай маставой (мо да наступнай вясны?). Папераджальныя знакі як стаялі, так і стаяць. Далей рамантавалі маставую ўжо ў Плянце на мосціках над раўчукамі. І гэта было ўсё.

Пра кавалак дрэннай маставой ваяводскай дарогі ў Новым Ляўкове пісаў я ў „Ніву" не адзін раз і не адзін год. Яго сяк-так „латалі", між іншым, летам гэтага года, абы, як кажуць, збыць ніўскую крытыку. Я меў надзею, што гэтай восенню вышэйзгаданы адрэзак маставой Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку адрамантуе як след. Але, што ні кажы, і зараз нічога не атрымалася. Дырэктара ППВД я ўгнявіў сваім папярэднім допісам ці што? Мабыць, ён вельмі скупы, грошай шкадуе. Рамантуе пакрысе толькі невялічкія адрэзкі маставых. І гэтак ужо шэсць гадоў аднаўляе дарогу на васьмікіламетровым адрэзку з Бандароў у Новае Ляўкова. У мінулым годзе дзесьці ўсяго 150 метраў. Рамонт рабілі ў дрэнную пагоду ў пачатку... снежня. Магчыма, каб дапісаць яшчэ да выканання мінулагодняга плана.

## У нас жывуць даўжэй

На Беласточчыне людзі жывуць даўжэй чымсьці ў іншых мясцінах нашай краіны. У Падляшскім ваяводстве найдаўжэй жывуць у Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. Жывуць не ў раскошы, жывуць бядней, убога і сціпла. Маюць найбольш чыстае асяроддзе. Тут чыстае паветра, лясы, лугі і палі. Гэта наш козыр. Не дымяць вялікія фабрыкі і вялікія гарадскія кацельныя. На дарогах ездзіць няшмат аўтамабіляў. Ціхі, спакойны куток. У вёсках людзі жывуць перш-наперш у драўляных дамах, якія найбольш прыязныя чалавеку. Харчуюцца без якіхсьці там прысмакаў. Жыццё тут бяжыць куды вальней і спакайней, чымсьці ў цэнтральнай Польшчы. Іншы лад жыцця.

На Беласточчыне жанчыны жывуць у сярэднім 83 гады, а мужчыны — 74. У іншых рэгіёнах нашай краіны жывуць карацей, хутчэй паміраюць. Там нашмат больш чымсці ў нас забруджанае асяроддзе. Там менш дрэў і раслін, здаровага паветра і чыстай вады ў рэках.

На Гайнаўшчыне ды ў Бельскім і ў Сямятыцкім паветах перш-наперш пажылыя жыхары ходзяць у царкву, моляцца. Аказваецца, што, між іншым, рэлігійнае жыццё мае ўплыў на даўгавечнасць людзей. Тут людзі больш мілыя, добразычлівыя ды сямейныя. Жыццё ў вялікіх і сярэдніх сем'ях, у якіх жывуць дзед і прадзед, бабулі і прабабулі, таксама мае добры ўплыў на даўгавечнасць.

Маем таксама стагадовых жыхароў. У Скупаве Нараўчанскай гміны жыве 100-гадовая Ніна Янцэвіч. У Заблудаўскай гміне маем дзве даўгавечныя жыхаркі: Леакадзію Давідовіч (ёй 105 гадоў) з Крыніцкіх і Браніславу Васілеўскую (ёй 104 гады) з Заблудава.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

Юстына БАКУМЭНКА
ПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Восень

Восень, восень, ты прыйдзі,
ты са мной пагавары!
Прынясі лісты залатыя,
чырвоныя, жоўтыя і аранжавыя.

Мы пагуляем з табою, Восень,
разам на рэчку пойдзем.
І паглядзім на дрэвы,
як лісты падаюць з іх.

Валасы твае доўгія
і ясныя як сонца,
прыгожа і лісты ў тваіх
валасах свеціцца,
пакуль упадуць на зямлю.

Восень, Восень,
ты прыйдзі праз год
і прынясі рыжую вавёрку!
Яна арэхі збірае,
скача па дрэвах
і хаваецца ў дупло.
Да пабачэння, Восень!

Тамаш ХАРКЕВІЧ
Новая Лука, ПШ у Нараўцы

## Восень

Восенню ў садочку,
што пры маёй хаце,
рыжая вавёрка
па плоціку скакала.

Бяжыць яна спрытна,
збірае арэхі,
каб мела што есці,
як замерзнуць стрэхі.

Я люблю дзівіцца
на гэту вавёрку,
хацеў дапамагчы ёй,
дык яна баіцца.

Магдаліна ДРАЗДОЎСКАЯ
КШ у Міхалове

## Восень

Чырвонае лісце і жоўтае!
Сапраўды каляровае,
Нават сны пра зялёныя
лугі адышлі.
Пад вокнамі каляровых
лістоў тысячы,
Жоўтыя, чырвоныя,
аранжавыя, карычневыя!

Фота Міры ЛУКШЫ




# Чаму варта палюбіць «Дэбют»?

Неўзабаве фінал XX Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют».

Час дасылаць вершы і апавяданні. Гэта прапанова для тых, што паспелі ўжо падрыхтаваць свае творы. Тыя, што яшчэ не паспелі, няхай паспяшаюць. Нельга праваронiць такую нагоду!

Конкурс «Дэбют» — шанц заіснаваць на старонках «Нівы».

Гэта таксама вароты ў вялікі свет літаратуры. Нашы сябры, якія пачыналі з «Дэбюту», выдалі свае зборнікі. Кася Сянкевіч мае ўжо два тамы паэзіі: «Дачка ружы» і «Гарбатка з незабудак». Яе творы друкавалі ў «Дзеяслове», самым прэстыжным сучасным беларускім літаратурным часопісе, які выходзіць у Мінску. Крыху старэйшы за Касю, Юрка Буйнюк, выдаў тры зборнікі: «Субота ў Маліnніках, «Самота дажджу», «Непаўторнасць хвіліны».

Іншая лаўрэатка «Дэбюту» Уршуля Шубзда з поспехам публікуе рэпартажы і гутаркі ў «Ніве». Сярод малодшых лаўрэатаў «Дэбюту» актыўныя ліцэісткі: Наталля Васько і Магда Бяляўская, якія прыгожа папаўняюць літаратурны працэс і сваімі творчымі праблiскамі заражаюць малодшых сяброў, якія ўдзельнічаюць у майстар-класах Сустрэчы «Зоркі». Менавіта ў час Сустрэч «Зоркі» праяўляюцца ўсё новыя таленты. Яны ў першую чаргу павінны стаць удзельнікамі конкурсу.

Якія ад гэтага карысці і козыры?

Вас будуць ацэньваць вядомыя літаратары. Іх увагі і падказкі могуць паўплываць на ваш жыццёвы шлях. Усе ўдзельнікі маюць нагоду сустрэцца на ўрачыстым падвядзенні вынікаў. Гэта нагода сустрэчы з вядомымі аўтарамі. Але не толькі. У якасці ўзнагарод арганізатары заўсёды прапануюць навейшыя літаратурныя шэдэўры на беларускай мове.

Удзел у конкурсе, як паказвае практыка, гэта адукацыйная гульня. У некаторых школах вершы і апавяданні пішуць на ўроках беларускай мовы. Паміж паасобнымі школамі існуе нешта накшталт канкурэнцыі — дзе найбольш прыгожых вершаў і аўтараў. Паасобныя творы час ад часу друкуем на старонках «Зоркі». Нашы чытачы (асабліва дарослыя) вашы публікацыі лічаць найлепшай прамоцыяй школы.

Для будучых удзельнікаў маем падказку. Калі нехта любіць пісаць — не трэба аглядацца на ўзнагароды. Часта бывае так, што лаўрэаты першага месца «паміраюць» ад свайго поспеху. А тыя, што пішуць далей і чытаюць іншых, дасягаюць сваёй мэты. Вось, Кася Сянкевіч, аўтарка зборнікаў і мастацкіх прац ніколі не была лаўрэаткай. А сёння, яна найбольш вядомая паэтка сярод маладога пакалення ў беларускай літаратуры.

Ніжэй друкуем вершы пра восень. Іх напісалі ўдзельнікі мінулагодняга конкурсу. Вершы чакалі публікацыі круглы год, каб стаць сугучнымі параwіне года.

ЗОРКА

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



## расквецім гісторыю Беларусі

### Беларусізацыя 20-х гадоў

У 20-я гады мінулага стагоддзя за невялікі прамежак часу беларусы ствараюць літаратурныя і мастацкія шэдэўры.

Дзякуючы выдатным прафесарам: Вацлаву Ластоўскаму, Уладзіміру Пічэту, Аляксандру Круталевічу, Міхаілу Піятуховічу, Міколу Шчакаціхіну былі заснаваны першыя ўніверсітэты, тэхнічныя і гуманітарныя навуковыя ўстановы, а таксама Акадэмія навук. Беларусы актыўна звяртаюцца да сваіх культурных каранёў.

Паспяхова працуе першы прафесійны, нацыянальны тэатр пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка ў Мінску. У гэты перыяд росквіту шырока выкарыстоўваюцца чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і ідыш.

У нашых мястэчках і вёсках, такіх як Нарва, Сухаволя ці Кленікі дзейнічае Беларусі інстытут гаспадаркі і культуры. На Падляшша заязджаюць вучоныя з Мінска. У Кленікі, з візітам да Яўгена Хлябцэвіча, карэспандэнта «Нашай Нівы», прыязджае прафесар Вацлаў Ластоўскі. Ён запісвае этнаграфічныя цікавінкі сяла Кленікі. (**гак**)






(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Ваўчок і грамата

Злавілі аднойчы ваўчка і заставілі яго прачытаць словы. Ды загадалі: скажы «аў», — а ён у адказ: «авечка». Скажы «бабка» — а ён «баран». Скажы «гук — а ён «гусь». Скажы «задача» — ён «здабыча». Скажы «ёсць» — а ён раззлаваўся і кажа: «Давайце хутчэй сваю грамату, а то збяжыць статак і зноў я застануся галодны».

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Віктар Шымук
## Колеры восені

Пафарбавала восень
Клёны
У колер жоўты
І чырвоны.

На спелых гронках
Арабіны —
Бялюткіх нітак
Павуціна.

А за сцяжынкай
Паглядзі ты —
Зялёнай руні
Аксаміты.

І немагчыма
Надзівіцца
На восень —
Цуда-чараўніцу...

## УВАГА КОНКУРС! № 43-17

**Круглае вочка,**
**З яго прамень:**
**Навокал ночка,**
**На экране — дзень.**
**К...**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 29 кастрычніка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 40: макаўка. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк, Ася Нікіцюк, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 43-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39-17:** Як, пыласос, не, Оля, вярблюд, бульба, голка, не, наскок, нуль. План, ігра, яблык, струк, но, бланк, Люблін, яда, верасень.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Kałuża | | Lizus / Zawołanie | | Diadem | |
| Góra | Jeż | Słowo | | | | | | | |
| Deszcz | | Żuk | Dudek / Derkacz | | | | | | |
| | | | | | Kod / Skarb | | | | |
| Żurawie / Łyko | | | | | | | | | |
| | | | | Kieliszek | Rodzynka | | | | |
| | | Jak | | | | | | | |

*15 кастрычніка 2017 года, да 200-ых угодкаў з дня смерці славутага земляка*

# Касцюшка называў сябе і літвінам





Zu Ehren von

Tadevuš Kaściuška
04.02.1746 - 15.10.1817

dem hervorragenden Sohn Belarus'
von dankbaren Landsleuten

Belarussische Vereinigung in der Schweiz
2017

Тадэвуш Касцюшка
04.02.1746- 15.10.1817

Выдатнаму сыну Беларусі
ад удзячных суайчыннікаў

Беларускае аб'яднанне ў Швейцарыі
2017

■ Гэты надпіс «вырашыла зняць» польскае пасольства ў Швейцарыі

У швейцарскім Залатурне беларусы зафундавалі помнік Тадэвушу Касцюшку. 21 кастрычніка чакаецца яго ўрачыстае адкрыццё. Аднак па патрабаванні польскага амбасадара ў Швейцарыі з памятнай шыльды прыбралі ўсе згадкі пра Беларусь. Ці маюць беларусы права ганарыцца Тадэвушам Касцюшкам, і ці з'яўляецца ён сынам Беларусі? З гэтымі пытаннямі Валянціна Лаеўская звярнулася да старшыні Беларускага гістарычнага таварыства прафесара Алега Латышонка:

**Радыё Рацыя:** — *Польскі амбасадар у Берне аспрэчыў надпіс „сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў”.*

**Алег Латышонак:** — Цяжка зразумець пазіцыю амбасадара, паколькі нічога тут прыніжальнага для Польшчы няма, ніхто ў Польшчы Касцюшку не забірае. Касцюшка нарадзіўся ў Мерачоўшчыне. Мерашоўчына на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, калі ён нарадзіўся, яна была на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Такім чынам да Польшчы месца нараджэння Касцюшкі не мае ніякага дачынення. Ніхто не аспрэчвае, што Касцюшка быў выдатным палякам, ён безумоўна лічыў сябе палякам, хаця называў сябе і літвінам. Трэба памятаць, што не было такога пачуцця нацыянальнага, як цяпер: „Я паляк і ніхто болей”. Касцюшка быў і палякам, і літвінам, вядома, што быў рускага паходжання, з праваслаўных русінаў яго сям'я выйшла. Заклікаў да бою на ўсіх мовах Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на беларускай. У тым надпісе нічога, што б пярэчыла яго польскасці няма. Нават слова суайчыннікі — гэта не суродзічы, гэта не „rodacy” па-польску, а можна перакласці, як суграмадзяне. Я лічу, што гэты надпіс вельмі вытрыманы, каб нікога не пакрыўдзіць. Беларусы на чале з Алесем Сапегам на свае грошы паставілі помнік, хацелі добра, запрасілі палякаў, а тут на пустым месцы ўзнік скандал, невядома чаго і навошта.

**РР:** — *Здаецца амбасадар — прадстаўнік краіны ў замежжы, чалавек адукаваны, выпускнік Варшаўскага ўніверсітэта, кандыдат навук Ягелонскага ўніверсітэта, у якога наўрад ці могуць адсутнічаць веды гісторыі ці тонкасцей дыпламатыі. Тым не менш скандал мае месца і працягваецца. Помнік, які павінны адкрыць 21 числа, будзе бадай без беларускага надпісу?*

**Алег Латышонак:** — Гэта яшчэ пабачым, паколькі фундатары помніка не здаюцца. Адносна амбасадара прыкра двойчы. Па-першае, таму што ён атрымаў ступень кандыдата грамадскіх навук у маёй альма-матэр, у Ягелонскім універсітэце. Па-другое, таму што першая яго праца — гэта Цэнтр усходніх даследаванняў (Ośrodek Studiów Wschodnich), заснаваны Маркам Карпам. Думаю, што Марэк, які быў маім сябрам, пераварочваецца ў труне, калі бачыць, што тут адбываецца.

**РР:** — *Як гэта можна назваць? Спроба быць звышкарэктным? Бо такія спрэчкі не ўпершыню ўзнікаюць. Напрыклад, нядаўна імя Канстанціна Астрожскага было прысвоена літоўска-польска-ўкраінскай пяхотнай брыгадзе. А тут такія спрэчкі з-за надпісу на помніку Касцюшку.*

**Алег Латышонак:** — На мой погляд спадар Кумох выказаўся няведаннем гісторыі і слабасцю як дыпламат, паколькі не павінен быў гэтага рабіць. Я ўжо гаварыў з некалькімі сябрамі-палякамі. Яны абураны і не могуць паверыць, як гэта можа быць. Вядома, што старшыня Фонду Тадэвуша Касцюшкі Тамаш Бартлмомей Атрэмбскі з Кракава выказаў незразуменне, як гэта можа быць. Ён дапамагаў у пабудове гэтага помніка выявамі Касцюшкі. Гэта тое, што павінна злучаць палякаў і беларусаў, тут робіцца прадметам спрэчкі. Гэта абезнадзейвае, бо столькі людзей стараецца, а на канец як заўсёды выходзіць нейкі пшык.

**РР:** — *Вяртаючыся да Касцюшкі, колькі ў ім беларускага?*

**Алег Латышонак:** — Беларускае ў яго паходжанне. Ён быў палымяным польскім патрыётам, калі гаварыў пра сябе, як пра літвіна, то хутчэй у такім рэгіянальным сэнсе. Яго сям'я спачатку была праваслаўнай, пасля была кальвіністкай, а на канец ужо прыняла рымскі каталіцызм. Маці яго была з уніятаў, таму Касцюшка рабіў ахвяраванні ва ўніяцкія цэрквы. Я яшчэ раз хачу падкрэсліць, ніхто не аспрэчвае польскасці Касцюшкі. Ён у амаль сённяшнім сэнсе быў палякам і марыў, каб усе гаварылі папольску, гэтаксама ў яго родных мясцінах. Ідзе пра тое, што Мерачоўшчына знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, то нельга адмаўляць, што ён быў сынам Беларусі. Тое самае тычыцца ўсіх выдатных людзей, усіх людзей, якія паходзяць з гэтай тэрыторыі. Ці гэта палякі, ці гэта габрэі, ці расейцы, бо таксама процьма такіх, і ўкраінцы. У кожнай нацыі можна знайсці выхадцаў з Беларусі, якія не мелі ў XVIII-XIX стагоддзі беларускай нацыянальнай свядомасці, бо мець не маглі. Тады былі іншыя назвы ды іншае пачуццё нацыянальнае, але трэба ўшанаваць права беларусаў ганарыцца такімі людзьмі, дбаць пра месцы іх нараджэння, ставіць ім помнікі, паколькі такія людзі, як Тадэвуш Касцюшка (ён можа найбольш вядомы ў свеце), таксама нашы, паколькі нарадзіліся на беларускай зямлі. Прытым ён яшчэ і паходзіў безумоўна з беларускай сям'і. Не бачу праблемы, чаму не ганарыцца Касцюшкам і палякам, і беларусам, і амерыканцам.

**РР:** — *Ці могуць беларусы Падляшша у сувязі з гэтым нешта зрабіць?*

**Алег Латышонак:** — Думаю, што без каментарыя гэтага не пакінем. Не буду гаварыць за ўсіх беларусаў Падляшша, магу сказаць, як старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, што мы гэтага моўчкі не пакінем, дакладна нейкую заяву зробім.

* * *

Прафесар Латышонак ад імя Беларускага гістарычнага таварыства плануе накіраваць зварот прэзідэнту Польшчы, паколькі 2017 год абвешчаны Сеймам годам Касцюшкі, а прэзідэнт узяў ганаровы патранат над усімі мерапрыемствамі, прымеркаванымі герою, 200-годдзе з дня смерці якога будзе адзначацца 15 кастрычніка. Польскае МЗС ужо адрэагавала на гэты інцыдэнт і прызнала, што Тадэвуш Касцюшка з'яўляецца героем Польшчы, Літвы і Беларусі, а таксама Злучаных Штатаў, універсальным героем усяго чалавецтва, а не выключна „сынам Беларусі ці польскім генералам”.

**Валянціна ЛАЕЎСКАЯ**
Беларускае Радыё Рацыя

---

Białystok, 13 października 2017 r.

**Szanowny Pan**
**Andrzej Duda**
**Prezydent Rzeczypospolitej Polskiej**

**Szanowny Panie Prezydencie!**

Rok bieżący uchwałą Sejmu i Senatu Rzeczypospolitej jest Rokiem Kościuszki w Polsce, a Pan objął rocznicowe obchody swoim patronatem honorowym. Obchody kościuszkowskie organizują jednak nie tylko Polacy, ponieważ Tadeusz Kościuszko poderwał do walki w obronie Rzeczypospolitej jej wszystkie narody.

Pieśń białoruskich powstańców 1794 roku wzywała: „Woźmiem kosy dy janczarki, pojdziem hordyja hnuć karki. Niechaj Maskal ustupaje, niechaj Bielarusou znaje”. Po upadku powstania lud białoruski opiewał Kościuszkę jako swojego legendarnego herosa, który padł w walce z Moskwą „tam pod Białym Stokiem”.

Także i dzisiaj pamięć o Tadeuszu Kościuszce jest żywa wśród Białorusinów. W 2004 roku odrestaurowano dwór w Mereczowszczyźnie, w którym się urodził. Natomiast w tym roku Białoruskie Towarzystwo w Szwajcarii postanowiło uczcić Kościuszkę pomnikiem naturalnej wielkości w Solurze (Soluthern), gdzie umarł. Napis na pomniku miał głosić w języku białoruskim i niemieckim, że wystawili go „Tadeuszowi Kościuszce, wybitnemu synowi Białorusi wdzięczni współobywatele”. Niestety, ambasador Rzeczpospolitej Polskiej w Szwajcarii, Dr Jakub Kumoch interweniował u mera Solury i zablokował umieszczenie na pomniku napisu o tej treści. Mer jak na razie się ugiął, w związku z czym napisu w języku białoruskim ma nie być. Nie oznacza to jednak zakończenia sprawy, która już kładzie się cieniem na stosunki polsko-białoruskie.

Nie wiadomo, dlaczego Panu Ambasadorowi nie spodobał się ten napis. Jest przecież rzeczą oczywistą, że Mereczowszczyzna znajduje się na terytorium Republiki Białoruś. Przypomnę także rzecz równie oczywistą, że kiedy Kościuszko się rodził, Mereczowszczyzna nie znajdowała się na terytorium Polski, lecz Wielkiego Księstwa Litewskiego, Ruskiego i Żmudzkiego, które tworzyło wraz z Koroną Polską Rzeczpospolitą Obojga Narodów. Białoruski termin „suajczynniki” (takiego użyto w napisie) nie sugeruje nawet, że pomnik postawili rodacy Kościuszki (po białorusku — „surodziczy”), tylko wychodźcy z tego samego państwa, na obecnym terenie którego urodził się Kościuszko. W niczym więc nie zaprzecza polskości Kościuszki.

Natomiast zaprzeczanie, że Kościuszko to „syn Białorusi” w dzisiejszym tego słowa rozumieniu oznacza ni mniej, ni więcej, że Pan Ambasador raczy nie uznawać istnienia Republiki Białoruś. Dr Jakub Kumoch reprezentuje Rzeczpospolitą Polską jako jej ambasador, a także Pana Prezydenta osobiście jako członek Narodowej Rady Rozwoju przy Prezydencie RP, ekspert zespołu ds. polityki zagranicznej. Jak więc mają rozumieć jego postępowanie Białorusini na całym świecie?

W Białymstoku od lat toczymy — Polacy i Białorusini — rozmowy o tym, że powinniśmy postawić pomnik Tadeusza Kościuszki w Rynku jego imienia. Garstka białoruskich emigrantów zdołała wystawić taki pomnik (za własne pieniądze!) w dalekiej Szwajcarii. Jeśli Państwo Polskie będzie występować przeciwko takim ludziom, zamiast ich wspierać, nigdy nie doczekamy się dnia przemianowania Mińskiej Szkoły Kadetów z imienia Aleksandra Suworowa na imienia Tadeusza Kościuszki.

Z poważaniem
**dr hab. Oleg Łatyszonek, prof. UwB**
Prezes Białoruskiego Towarzystwa Historycznego w RP

Do wiadomości:
Sz. P. Witold Waszczykowski, minister spraw zagranicznych
Sz. P. Antoni Macierewicz, minister obrony narodowej

# Красны Бор


Капліца святога Роха

„Ніхто, запаліўшы светач, не накрывае яго пасудзінай і не ставіць пад ложак, але ставіць яго на свечніку, каб тыя, хто ўваходзіць, бачылі святло. Бо няма нічога схаванага, што б не стала яўным, і нічога таемнага, пра што б не стала вядома і што б не выявілася. Таму зважайце, як слухаеце. Бо хто мае, таму дадзена будзе, а хто не мае, у таго адымецца і тое, што, як здаецца яму, ён мае". Гэта словы з Евангелля ад Лукі і трэба верыць, што так яно ў сапраўднасці ёсць, што няма нічога схаванага.

З акон поезда, які калясіць па лініі між Дубровай і Аўгуставам, паказваецца за Бобрай высокая касцельная вежа, быццам той евангельскі светач. Гэта храм у Красным Бары, за якім даволі таемная гісторыя. Узведзены ён быў або ў XVI стагоддзі, магчыма, у 1584-1589 гадах, або ў пачатку наступнага стагоддзя — родам Храптовічаў. Пра пачаткі храма няма пэўных звестак; гісторыкі і археолагі толькі здагадваюцца, калі ён быў пабудаваны. Пра Храптовічаў так згадвае «Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага»: „Храптовічы, Храбтовічы, магнацкі род герба „Адравонж". Родапачынальнік — баярын Багдан, які жыў у 15 ст. Храптовічы былі праваслаўнымі, у 16. ст. перайшлі ў каталіцтва. У 16. ст. Храптовічы мелі маёнткі, м. інш. у Новагародскім, Лідскім і Гарадзенскім паветах...". Адзін з роду, Мялецій, як падае згаданая энцыклапедыя, „удзельнічаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай, потым манах Кіева-Пячэрскага манастыра, яго архімандрыт з 1572 г. У 1592 дамогся для манастыра ў канстанцінопалькага патрыярха стаўрапігіі (прамога яму падпарадкавання). Пры падтрымцы караля Стафана Баторыя ў 1580 г. абраны епіскапам уладзіміра-берасцейскім...".

Даследчык касцельнай гісторыі на нашых землях ксёндз Вітальд Емяліты так пісаў: „W 1506 r. król Aleksander nadał Chreptowiczom szmat puszczy perstuńskiej nad rzekami Biebrzą i Lebiedzianką. Krasnybór był w posiadaniu tego rodu do 1790 r. Wówczas Joachim Chreptowicz dał tę miejscowość, razem z miasteczkiem Sztabin, w posagu swojej córce Ewie, żonie Michała Brzostowskiego. Ziemie, o których mowa, kolonizowała ludność polska — z Mazowsza, ruska — spod Grodna i mieszana polsko-ruska spod Goniądza. Polacy byli katolikami, a Rusini prawosławnymi. W bezpośrednim sąsiedztwie Krasnegoboru istniały parafie unickie w Augustowie, Balli Kościelnej, Lipsku, Łabnie, Perstuniu, Rygałówce i Sopoćkiniach oraz łacińskie w Augustowie i Lipsku". Частка названых мясцовасцей зараз знаходзіцца ў Беларусі. Далей кс. Емяліты згадвае, што ў 1821 годзе граф Караль Бжастоўскі ўспамінаў: „Od dawnych czasów przodkowie moi zamieszkali w Krasnymborze ustanowili, stosownie do potrzeby czasowej, cerkiew ruską murowaną, gdzie lud po ten czas greckiej religii do bazylianów na nabożeństwa zbierał się i obok tej świątynię katolicką stosownie do wiary dziedzica i dwornych jego".

У бабінцы згаданай мураванай царквы табліца, на якой першая дата гэта 1584 год. Як падаюць гісторыкі, у наступным стагоддзі ў выніку пошасцей вымерла навакольнае насельніцтва. Ці гэта былі эпідэміі, ці можа гэтае абязлюдзенне было вынікам тагачасных войнаў, якія прынята называць шведскім патопам. Бо вядома, што не надта адлеглы Аўгустаў быў у 1656 годзе спустошаны татарскім войскам, якое вярталася з бітвы пад Простакамі. З Вікіпедыі, пра згаданую бітву: „Bitwa pod Prostkami rozegrała się w pobliżu miejscowości Prostki w dzisiejszym powiecie ełckim, dnia 8 października 1656 r. pomiędzy sprzymierzonymi wojskami Rzeczypospolitej i Tatarów pod dowództwem hetmana polnego litewskiego Wincentego Gosiewskiego, a wojskami brandenbursko-szwedzkimi. Po kilku godzinach walki Brandenburczycy i Szwedzi zostali rozbici. Następnie Gosiewski rozpuścił Tatarów w celu grabieży posiadłości elektorskich. Jednak zanim to uczynili, splądrowali i zniszczyli nie tylko obszary Prus, ale i ziemię wiską i starostwo rajgrodzkie". І яшчэ шырэйшае ваколле...

Таму не дзіва, што ў ходзе гэтых стыхійных бедстваў парвалася памяць нават пра такі відны сакральны аб'ект. Даследчык краснаборскай гісторыі Адам Палуянскі піша „Kiedy i kto tę budowę wys-


Інтэр'ер касцёла Звеставання

tawił powłoka niepamięci i tę wiadomość pokrywa. Dość, że istniał za czasów króla Jana Kazimierza, to jest w połowie wieku XVII, i wówczas to, w czasie grasującej w kraju epidemii, cała ludność tej osady do szczętu wymarła, a z nią i tradycja założenia tak osady, jak i kościoła zaginęła". І нават пазнейшыя пасяленцы на гэтых землях прыдумалі асаблівую пра яго легенду. Паводле яе касцёл быў зусім забыты, і ляснік, выпадкова, праследуючы аленя, зайшоў яго следам у храм. Жывёла мела там сваё логава. Сцены храма абраслі мохам і ён быў амаль невідочны... Легенда падае сюжэт, які вельмі супадае з сапраўдным лёсам індзейскіх пірамід у Мексіцы ці Гватэмалі; ці з лёсам храмавага комплексу Ангкор-Ват у Камбоджы...

Касцёл, пра які тут мова, быў прысвечаны Звеставанню Дзевы Марыі, шмат часу быў манастырскім. Пасяляліся тут манахі розных ордэнаў, і пакідалі яго, але і весткі пра іх таксама цьмяныя. Мяркуецца, што там маліліся і базыльяне, і базыльянкі, і бернардзінцы, і дамініканцы. У 1824 годзе кляштар быў скасаваны, а храм становіцца парафіяльным касцёлам. Аднак ён замалы для ўсё буйнеючага ліку вернікаў. Таму ў 1870-х гадах на суседніх могілках узводзіцца больш абшырная капліца з палявога каменя, прысвечаная святому Роху.

Пра касцёл Звеставання так пішацца ў Вікіпедыі: „Budowla tego kościoła — obecnie kościół pod wezwaniem Zwiastowania Najświętszej Marii Panny — jest najstarszym obiektem sakralnym na Suwalszczyźnie. Stanowi oryginalne połączenie renesansu z późnym gotykiem, nawiązując jednocześnie do średniowiecznego budownictwa prawosławnego. Założony na planie krzyża greckiego, zaokrąglonego na końcach w kształt trójliścia. Najcenniejszym elementem wyposaże-


Касцёл Звеставання ў Красным Бары

nia kościoła jest słynący łaskami olejny obraz Matki Boskiej z Dzieciątkiem. Pochodzi co najmniej z połowy XVII wieku i według legendy nie daje się kopiować".

Гэты абраз прыцягваў у Красны Бор паломнікаў з шырокага наваколля, таму храм лічыцца санктуарыем. З паломнікамі нейкі час была праблема, бо Красны Бор цягам колішніх гадоў мяняў сваю адміністрацыйную прыналежнасць. Спярша, у эпоху Першай Рэчы Паспалітай, быў у Гарадзенскім павеце, пасля Напалеонаўскіх войнаў і тэрытарыяльнага перападзелу апынуўся ў Аўгустаўскім павеце. Пасля на Бобры, побач, была ўстаноўлена граніца паміж Расійскай Імперыяй і Каралеўствам Польскім, якую пасля Студзеньскага паўстання нельга было пераходзіць, асабліва пілігрымам... Якая цудадзейнасць сыходзіла ад абраза цяжка зараз меркаваць, бо, як згадвае ксёндз Емяліты, «w 1707 r. ojciec Witalis Bogucki przekazał ojcu Wawrzyńcowi Ostrowskiemu zbiór cudów zdziałanych przez łaskę boską przy cudownym obrazie Najświętszej Maryi Panny w kościele murowanym rozmaitymi dobrodziejstwami boskimi słynący. Księga zaginęła i od tego czasu nie zapisuje się łask».

У XVI стагоддзі ў Беларусі дужаліся тры канфесійныя плыні: каталіцтва, праваслаўе і пратэстанцтва. «Гісторыя беларускага мастацтва»: «Выпрацоўка новых сродкаў выразнасці манументальнай архітэктуры адбывалася ў атмасферы вострай рэлігійна-палітычнай барацьбы і саперніцтва ў культавым будаўніцтве, што спрыяла стварэнню самабытнай беларускай разнавіднасці барока. У XV-XVI стст. акрамя шырока вядомых чатырохвежавых цэркваў-крэпасцей у Сынковічах, Мураванцы і Супраслі ўзводзіліся мураваныя культавыя пабудовы з трохчасткавай аб'ёмнай структурай. (...) Бабінец завяршаўся высокай масіўнай вежай, якая дамінавала ў кампазіцыі. Вежа складалася з некалькіх ярусаў чацверыкоў і васьмерыкоў, амаль роўных па вышыні і папярочнаму сячэнню. (...) Тып храма з трохчасткавай структурай быў прынесены на Беларусь у канцы XV ст. каталіцкімі ордэнамі бернардзінцаў і францысканцаў, якія мігрыравалі з поўначы Італіі на ўсход...». Храм у Красным Бары здаецца супадаць з гэтай агульнай ідэяй. Яго сцены тоўстыя і ахвяраванне — Звеставанню — такое ж, як і ў нашай тутэйшай Супраслі.

Пабудаваны ў бадай XVI стагоддзі храм быў грунтоўна адноўлены ў палове XIX стагоддзя. У час Першай сусветнай вайны нямецкае войска ўладзіла там стайню. Таму рамонты, меншыя або больш маштабныя, усё там адбываліся. Пэўнай цікавінкай інтэр'ера краснаборскага Благавешчанскага касцёла з'яўляецца кандэлябр, які выкананы з аленевых рагоў. Можа гэта адмысловая прыгаданне колішняй легенды пра аленевую ў ім келлю...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (23)



Адмена рашэння аб маім вызваленні паставіла кампаньёнаў — шафёра і кінамеханіка — у заклапочанасць. Не спадзяваліся такога ходу падзей. Як вытрымаць дваццаць чатыры дні ў машыне, не размаўляючы з сабою? Кашмар. А ўсё ж такі я вытрымаў. Кіраўніцтва ВПК, хоць і вынесла мне пакаранне, але і больш даверала. У народзе кажуць: „Улада любіць даносы, але не пераносіць даносчыкаў”. Гэта няпэўны народ.

1 кастрычніка 1963 года выязджалі мы з базы быццам нічога не здарылася. Камісійна праверылі гатоўнасць брыгады да працы, затым на карце спраўнасці распісаліся начальнік аддзела кіно і транспарту, затым інспектар бяспечнасці працы. Перад выездам начальнік аддзела кіно напомніў шафёру і кінамеханіку, каб выконвалі загады кіраўніка і сур'ёзна ставіліся да службовых абавязкаў. Паколькі бакавыя дарогі яшчэ не засыпала снегам, першымі ў маршрут я запісаў вёскі Соцы, Іванкі-Рагозы, Камень і Курашава. Гэта было мне на руку. У тых вёсках я меў даверлівых кіраўнікоў школ, з якімі дружыў: у Соцах — Васіль Пучко, у Іванках — Кастусь Юшкевіч, а ў Курашаве — Анатоль Швед. З настаўнікамі ў мяне таксама былі добрыя адносіны. У школах арганізавалі ранішнікі, а на адвячорку — сеансы для насельніцтва. Амаль праз год працы ў кіно я наладзіў станоўчыя кантакты з кінагледачамі, затым праводзіў з імі вольны час. Складаная справа вынікла з харчаваннем, а канкрэтна з варэннем страў. Да гэтага часу суп варылі па чарзе. Зараз шафёр з кінамеханікам варылі толькі сабе. Я апынуўся ў адстаўцы: або варыў я сабе адзінока, або спажываў бутэрброды. З першых дзён патрабаваў я ад брыгады дакладнага выканання службовых абавязкаў. Кінамеханіку ў час праекцыі не дазвалялеца пакідаць апаратуру без нагляду. Дагэтуль было так, што пасля пуску сеанса большую частку праседжваў у машыне, зараз быў „прыкаваны” да апаратуры. Гэтае ж самае тычыцца шафёра. У вёсках, дзе не было электрычнага току, запускалі агрэгат, а шафёр вымушаны быў наглядаць за яго працай. Там, дзе быў электраток, шафёр у дзвярах правяраў білеты і пільнаваў уваход, каб у залу не пранікалі безбілетнікі. За гэта дадаткова плацілі яму 5 зл. за кожны дзень „супрацоўніцтва” з кіраўніком кінабрыгады. Апрача таго шафёру забараніў я перавозіць у машыне матацыкл. У летнім сезоне карысталіся яны з кінамеханікам уласным транспартам, калі не арганізавалі ранішнікаў, пры даездзе на працу, прытым шафёр браў службовае паліва для свайго матацыкла. Гэта не спадабалася кампаньёнам. Пісалі на мяне скаргі. Камісія правярала факты ў Грамадскай радзе нарадовай у Палічнай. Абвінавачанні не пацвердзіліся. Пісалі, што ў сваёй Кузаве палову сваякоў прапускаю на сеансы без білетаў. Другая асечка. У летнім сезоне, калі кінамеханік карыстаўся водпускам, заступаў яго малады механік Рысек Катовіч з кіна „Зніч” у Бельску-Падляшскім. Шафёр схіліў яго на свой бок. Я зноў заставаўся сам. Таксама было з шафёрам Скепкам. Яго на час водпуску заступалі шафёры з ВПК — Тадзік Міхаліс або Валодзя Іванюк з-пад Страблі. Але гэтых механік Чарнянін не змог перавесці на сваю руку. Яны заставаліся ні пры чым. У такіх умовах я вымушаны быў працаваць некалькі месяцаў. Пасля наступіла „адліга”. Брыгада прывучвалася да новых правілаў.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

Юрка БУЙНЮК

## БАЦЬКАМ

Хаця Вас моцна пахіліў час
То заўсёды малюся за Вас
І тужу па беластоцкіх начах
За хаткай роднай у Маліннíках
Тут я нарадзіўся і ўзрос
Тут Вашай навукі плён прынёс
Бацькі мае каханыя і дарагія
За Ваша выхаванне дзякую я,
Што за навукай паслалі ў свет
Хаця нялёгкі хлеб мае паэт
Вы мяне вучылі добрым быць
І пра Бога не пазабыць
У царкву ў святы заглядаць
У малітве душою залятаць
Абмінаць злых людзей здалёк
Зарабляць на свой хлябок
Бо ніхто дарам не есць
Трэба свой крыж несці
І навук бацькоўскія дары
Свім дзецям падары
Узгадай добрым словам бацькоў
І да іх шчырую любоў
Для Вас мая ласка і спагада
Родных людзей поўная хата

2017.03.30






## http://gaida.by

Шмат хто з нас, калі быў падлеткам, захапляўся баявымі мастацтвамі. Уменне біцца, раскідваючы адным махам сваіх ворагаў, уражвала многіх. Тыя, хто глядзеў кіно з Брусам Лі ці Чакам Норысам, на падсвядомасці атаясамлялі сябе са станоўчым і амаль усемагутным героем. І, зразумела, хацелася навучыцца рабіць так, як рабілі на экране.

Калісьці з усіх баявых мастацтваў мы ведалі толькі каратэ, потым сталі дадавацца розныя ўшу, таэквандо, айкідо і гэтак далей, і больш. Цяпер гэтыя віды спорту спалучаюцца паміж сабой, узнікаюць новыя, як напрыклад гайда — беларускае баявое мастацтва.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://gaida.by**, то перад яго вачыма адкрыецца выяўленне людзей, якія б'юцца паміж сабой. Гэта могуць быць двое мужчын, дзве дзяўчыны ці двое хлопцаў-падлеткаў. Пад гэтым выяўленнем змешчаны расповеды, у прыватнасці, пра тое, што такое гайда. „Гайда — гэта шлях самаўдасканалення, мастацтва, якое дазваляе сучаснаму чалавеку, які жыве ў сучасным свеце, паспяхова дасягаць свае жыццёвыя мэты, быць здаровым, моцным і духоўна свабодным. Вышэйшая мэта заняткаў Гайда — здабыццё волі ад слабасці, страху, хвораcці і глупства. У духоўным аспекце, на ўзроўні філасофскага разумення жыцця, яго сэнсу і мэт, мы ўспрымаем Гайда як шлях да ўласнай свабоды”, — распавядаюць уладальнікі сайта, называючы стваральнікам гайды нейкага Андрэя Шкірыча. Дарэчы, аб ім асобны расповед у падрубрыцы „Андрэй Шкірыч — шлях да Гайда”, якая месціцца ў рубрыцы „Наш клуб”. Паводле інфармацыі на сайце, гайда спалучае ў сабе як традыцыйныя падыходы да навучання баявым мастацтвам, так і наватарскія методыкі, якія дазваляюць паскорыць працэс навучання і зрабіць яго больш эфектыўным, адаптаваць пад запыты сучаснага чалавека. Пры гэтым галоўная мэта гайды — навучыць чалавека змагацца не дзеля атрымання медаля на нейкім чэмпіянаце, а за ўласнае жыццё.

Варта адзначыць, што на сайце слова „гайда” пішацца заўсёды з вялікай літары і пры гэтым не скланяецца. Як бачым, гайдаўцы стварылі не толькі новае беларускае баявое мастацтва, але і новае словавыключэнне ў беларускай мове. Праўда, самі яны сцвярджаюць, што гэтаму слову ў беларускай мове шмат стагоддзяў. „Слова «Гайда» — старажытнае, яму некалькі тысяч гадоў. Яно прыйшло ў сучасную беларускую мову з мовы гунаў, магутных вояроў, імперыя якіх дасягнула свайго росквіту ў 4-5 стст. н.э. пры цары Скіфіі і Германіі Атыле. Землі гэтай дзяржавы распасціраліся ад тэрыторыі Сібіры да межаў сучаснай Венгрыі. Імперыя Атылы была поліэтнічнай дзяржавай, аснову якой складалі народы гунаў і сарматаў. Апошнія лічылі сваімі прамымі прабацькамі [беларускія] шляхцічы Вялікага Княства Літоўскага”, — распавядаецца ў падрубрыцы „Гайда, школа баявога мастацтва — наша назва”.

Як адзначаецца ў розных падрубрыках рубрыкі „Наш клуб”, займацца гайдай хлопчыкам і дзяўчынкам можна з сямі гадоў і ажно да сталага веку, стаўшы ўжо дзядулямі і бабулямі. Паглядзець, як займаюцца гайдай, можна ў рубрыцы „Фотагалерэя”. Там сапраўды ёсць фотаздымкі і старых, і малых навучэнцаў.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Доктар тэалогіі са Шчучыншчыны



## 125 гадоў з дня нараджэння Янкі Тарасевіча

Беларускі культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, хрысціянскі духоўнік Янка Тарасевіч нарадзіўся 20 кастрычніка 1892 г. у вёсцы Клешнякі Лідскага павета (цяпер Шчучынскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і Міхаіла Тарасевіча і Хрысціны з дому Рамашкевічаў.

Пачатковую адукацыю Янка Тарасевіч атрымаў у Бакштах і Васілішках, што на Шчучыншчыне. У 1911 г. маладым хлопцам выехаў у Амерыку і жыў там стала. Працаваў на розных фабрыках і прадпрыемствах і паралельна займаўся самаадукацыяй. Жыў у мясцовасці Нэшуа (штат Нью-Хэмпшыр), дзе працаваў падмятальшчыкам на фабрыцы бавоўны, пасля перайшоў на працу ў абутковую майстэрню. У 1912 г. уступіў у ордэн салятынаў. Вучыўся далей у Хартфордзе (штат Канектыкут). Вышэйшую тэалагічную адукацыю пачынаў атрымліваць у Канадзе — у Манрэалі, навучаўся там у 1917-1918 гг. Потым цягам 1919-1925 гг. вучыўся ў швейцарскім Фрыбургу. Яшчэ ў 1923 г. рукапакладзены ў святары. Стаў доктарам тэалогіі. Абараніў дысертацыю на тэму „Пакора паводле Тамаша Аквінскага”. Пасля выкладаў у духоўнай семінарыі ў штаце Нью-Йорк. Вёў на беларускай мове касцельныя набажэнствы, выступаў з публічнымі лекцыямі на беларусазнаўчыя тэмы.

У 1927 г. Янка Тарасевіч у Нью-Йорку пачаў выдаваць газету „Праўда”. Аднак выйшаў толькі адзін яе нумар. У 1930-1940-я гг. выдаваў англійска-расейскі часопіс „Голос церкви”. У 1936 г. з дазволу Ватыкана перайшоў у іншы каталіцкі ордэн — бенедыкцінаў. З 1937 г. працаваў у манастыры св. Пракопа каля Чыкага. Разам з Язэпам Варонкам і Язэпам Рэшацем у 1941 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады, у 1941-1948 гг. быў старшынёй гэтай арганізацыі. Разгарнуў шырокую беларускую асветніцкую працу пасля Другой сусветнай вайны. Стварыў у Чыкага першую беларускую парафію Хрыста Збаўцы. Цягам многіх гадоў (1952-1961) выдаваў газету „Лісток к беларусам”.

Неаднаразова Янка Тарасевіч прыязджаў з эміграцыі і наведваў родную зямлю — у 1921, 1924, 1935, 1967-68 гадах. Кожны яго прыезд на Бацькаўшчыну з-за беларускасці святара быў сполахам для ўлад і выклікаў незадавальненне касцельнага кліру. У 1935 г. яго нават папрасілі пакінуць межы Рэчы Паспалітай як грамадзяніна ЗША, пра што сведчыла пастанова навагрудскага ваяводы Стэфана Свідэрскага.

Тарасевіч друкаваў свае вершы, апавяданні, эсэ, рэлігійна-асветныя артыкулы ў вядомых, пераважна беларускіх часопісах: „Хрысціянская думка”, „Божым шляхам”, „Голос церкви”, „Сяўбіт”. Пісаў мемуары і ў Вільні ў 1936 годзе выдаў свае ўспаміны пад назвай „На Бацькаўшчыну. Апісанне падарожжа з Амерыкі і назад”. Таксама ў Вільні выйшлі з друку ягоныя філасофска-тэалагічныя патрыятычныя трактаты „Зло і лякарства на яго” (1928), „Чалавек — шукальнік Бога” (1934), „Беларусы ў святле праўды” (1935).

Памёр Янка Тарасевіч 11 чэрвеня 1978 г. у сваім абацтве ў горадзе Лайл (штат Ілінойс, ЗША). Пахаваны на могілках бенедыкцінскага кляштара св. Пракопа ў Лайле. Духоўную справу яго працягвалі родны пляменнік Уладзімер Тарасевіч, які выехаў да дзядзькі ў Амерыку перад Другой сусветнай вайной, а пазней стаў вядомым багасловам, беларускім рэлігійным дзеячам у эміграцыі, а таксама пляменніца Юзэфа Тарасевіч.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Юрка БУЙНЮК

# МОЙ ДЗЯДУЛЯ

Мой дзядуля карты раскрывае
Гісторыі роднай сям'і
Часам Біблію ўзгадае
Чаму вучаць Святыя Айцы
Мой дзядуля памятае
Якая вёска была да вайны
Сваю маладосць успамінае
Расказвае пра маіх прадзедаў
Прадзед Іван здатны гарманіст
Яго брат Нікіта – жартаўнік
Дзедаў дзед – паляк Дэмід
Петрушкевічаў пачаў род
У бежанства падаўся
Дзедава цётка Галена
ў Расіі засталася
Там са старaверам звянчалася
Брат Барыс і сястра Ніна
ў Расіі нарадзіліся
Старавера расстралялі за веру
Што адмовіўся служыць
рэвальверу
То зноў дзед пачнуць успамінаць
Дзяцінства сваё ўзгадаць
Як у іх у сям'і былі
Тры браты і чатыры сястры
Як прадзед Іван людзям будаваў
хаты
На гармоніку іграў на святы
Як пайшоў у прыступы
З Малiннік у Рудуты
І ўспомніць дзед Васіль
Як у Мора да бабулі хадзіў
Бацька бабы Марты
Прадзед Уладзімір
Сто адзін год жыў
Як вянчаліся мае дзяды
Пасля самае вайны
Як сабе нажылі
Дзвюх дачок і двух сыноў
— Мая мама, цётка і два дзядзькі
Успомніць мне дзядуля і заплача
Што вёска сёння вымерла
Калісьці было неяк інакш
Яе слава толькі ў памяці засталася
Ніхто тут не пачуе дзіцячага смеху
І таму сумна майму дзеду

2017.03.30, Беласток

FUNDACJA VILLA SOKRATES oraz MUZEUM RZEŹBY ALFONSA KARNEGO
mają zaszczyt zaprosić na wystawę **(...) I ŻAŁUJĘ, ŻE JERZY NIE JEST TUTAJ...***
**JERZY NOWOSIELSKI NIEZNANY**

kurator wystawy: Leon Tarasewicz, Otwarcie wystawy: piątek, 20 października 2017, godz. 18:00
Muzeum Rzeźby Alfonsa Karnego ul. Świętojańska 17, 15-001 Białystok



## XXIV
## АСЕННІЯ СУСТРЭЧЫ З БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРАМ
## JESIENNE SPOTKANIA Z FOLKLOREM BIAŁORUSKIM

22 październik 2017r. godz. 15:00
Świetlica Wiejska w Czyżach
29 październik 2017r. godz. 15:00
Świetlica Wiejska w Klejnikach

**У ПРАГРАМЕ:**

Клуб Чыжы - Канцэрт у выкананні аматарскіх калектываў, м.ін. выступяць:
„ГАСЦІНЕЦ" з Гродна (Рэспубліка Беларусь),
"МЭТРО" з Гайнаўкі,
"РОСЫ" з Рыбал, "РУЧАЁК" з Белавежы,
Калектывы з Гміны Чыжы

Клуб Клейнікі - Канцэрт у выкананні аматарскіх калектываў, м.ін. выступяць:
"АНТРАКТ" з Бельска Падляшскага,
„ОМОРФОС" з Сямятыч,
„МЭТРО" з Гайнаўкі, „ХУТАР" з Гарадка,
Калектывы з Гміны Чыжы

**W PROGRAMIE:**

Świetlica Czyże Blok artystyczny w wykonaniu zespołów:
„HAŚCINIEC" z Grodna ( Republika Białoruś ),
„METRO" z Hajnówki,
„ROSY" z Rybol, „RUCZAJOK" z Białowieży,
Zespoły z Gminy Czyże,

Świetlica Klejniki - Blok artystyczny w wykonaniu zespołów:
„ANTRAKT" z Bielska Podlaskiego,
„OMORFOS" z Siemiatycz,
„METRO" z Hajnówki, „CHUTAR" z Gródka,
Zespoły z Gminy Czyże

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. пара года, калі лета на антыподах = 28 _ 21 _ 13 _ 17 _;
2. муж дачкі = 11 _ 12 _ 34 _ 35 _;
3. „рука" птушкі або самалёта = 10 _ 5 _ 6 _ 30 _ 31 _;
4. ваяводскі горад, у якім... блін = 14 _ 15 _ 16 _ 25 _ 9 _ 8 _;
5. пасечаная салома = 27 _ 26 _ 7 _ 1 _ 2 _;
6. дахавы і ізаляцыйны матэрыял у... настольніку = 4 _ 19 _ 18 _ 23 _;
7. паслухмянае дзіця = 22 _ 24 _ 20 _ 29 _;
8. хвойнае вечназялёнае дрэва (*Taxus baccata*) = 32 _ 33 _ 3 _. **(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | | | 24 | | 25 | 26 | 27 |
| | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Хадж, бліц, ратуша, Елісей, шкілет, прадавец, Вена, долар, мудрэц, шахта, вольха, мінус, плюс, аналіз.

Рашэнне: **Ураджайнае лета прадвесціць халодную зіму**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская,Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 22.10 — 28.10

**(22.03. — 20.04.)** Прыглянься выдаткам і задбай аб сваё здароўе. Можаш змяніць інтэр'ер дома. На працы вельмі дбай аб дакументы. Бараны, якія шукаюць працу, няхай заінвестуюць у свой развой і выгляд; варта падвучыцца мовам. Пазнамёмішся з цікавымі людзьмі, з якімі варта схадзіць на культурныя мерапрыемствы. Добры час для пахудзення.

**(21.04. — 21.05.)** Пасля 23.10. спадзявайся павышэння, большых грошай. Справішся з абавязкамі, пазмагаешся за сваё. Добра пойдуць парадкі дома і на працы. У пачуццях шыкуецца праверка. Дома пачне цябе нерваваць тое, на што ты раней не звяртаў увагі. Калі на працы робіш за двух, пра гэта паразмаўляй з шэфам 27-28.10. Быку з II дэкады, не вырашай важнага 21-25.10.; калі здарыцца памылка, памятай, што да сваіх памылак прызнаюцца вялікія людзі. Пасля 26.10. будзеш зайздросны. Можа трэба будзе падвучыцца.

**(22.05. — 22.06.)** Шанцы на рэалізацыю смелых намераў. Спадзявайся большых грошай. Сустракайся з сябрамі. Не абманеш кантрагентаў прыгожымі вачыма і словамі — будуць патрабаваць цвёрдых даных і непахісных аргументаў. У фірме можаш быць «выпалены» і падазраваць, што хтосьці ставіцца супраць цябе. Рабі сваё, не мусіш парывацца на надта амбітныя мэты. Знайдзі час на адпачынак і супакой, асабліва калі ты нарадзіўся ў I дэкадзе.

**(23.06. — 23.07.)** Добрая атмасфера дома і на працы, але камусьці пасля 23.10. можаш «падпасці». Зачароўвай, але з галавой. Спрацэнтуе тое, чаго нядаўна ты навучыўся. Спрабуй яшчэ з пошукам працы 24-28.10. Удасца табе 24-25.10. высветліць непаразуменні і спрэчкі. Вары ежу, гатуй на пары. Не шкадуй у стравы кмену і майрану.

**(24.07. — 23.08.)** Разлічышся з даўгамі. Добра на працы і ў кампаніі. Але пільнуйся, каб 26.10 не апынуцца ў пасцелі з кімсьці, хто цябе дагэтуль не цікавіў. Шыкуецца шанц на заробак. Але не выдай усёй зарплаты. Настрой папраўляй у кампаніі. Але 21-25.10. могуць цябе заатакаваць энергетычныя вампіры і несумленная канкурэнцыя. Калі ты з II дэкады, вельмі разглядвайся на вуліцы.

**(24.08. — 23.09.)** Да 22.10. вялікія шанцаванні, хаця многа нерваў. Знайдзі час для самога сябе. Еж рэгулярна, запаволь тэмп жыцця. У прафесіі будзь сумленным і рабі добрыя выбары, неўзабаве будзеш значыць больш на рынку. З 27.10. зможаш моцна абараніць свае рацыі.

**(24.09. — 23.10.)** Спрыяе табе Венера! Можаш закахацца. Вырашэнні сямейных праблем пакінь старэйшым у сям'і. Вядзі смела сваю дзейнасць, Марс падтрымае цябе пры новых выкліках. Вагі з верасня адважна кінуць рукавіцу канкурэнцыі, спрабуюць сваіх сіл на новых франтах. Адважся на змены, паедзь у падарожжа, перажыві прыгоду. Але нічога не занядбоўвай 21-25.10.

**(24.10. — 22.11.)** Ажыўленне, паляпшэнне засяроджанасці. У пары гарачыя ночы і непаразуменні. Сам не пачынай рамонту. Будуць службовыя паездкі. На старт да новай працы ці шэфства найлепшы час 24-28.10. Спалучыш наватарскія метады з вопытам — будзеш у выйгрышы. Але не бяры сур'ёзных фінансавых абавязкаў. З 26.10. не ігран на двух франтах.

**(23.11. — 22.12.)** Цяжка не будзе, пры падтрымцы Сонца. Прыхільнасць атачэння. У пастаянных парах прыліў пачуццяў. З 28.10. хтосьці будзе табе пільней прыглядацца. Зрабі парадак дома. На працы засяродзься на саліднай рабоце, не ўваходзь у падазроныя саюзы і пазбягай плётак. На дадатковыя прыбыткі разлічвай з 24-28.10.

**(23.12. — 20.01.)** Пашана ў сям'і і грамадзе, трапна ў інтарэсах. Але ў пары з доўгім стажам магчымы крызіс. З 27.10. дома шчыра размаўляй, але не спрыяй нікому з суразмоўцаў. На працы лады з новым кіраўніцтвам. Адчуеш патрэбу змены стылю жыцця на здаравейшы. Не купайся ў моцна гарачай вадзе.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш адкрыць свае новыя таленты і здабыць папулярнасць. Пазнаёмішся з людзьмі, якіх трэба ведаць. Кемлівасць, досціп, інтуіцыя пераканаюць да цябе іншых. Не дай сябе спакусіць часовым прыбыткам і будзь верным сваім прынцыпам. Грошы знойдзеш з дадатковай крыніцы.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш папулярны і шанцоўны. Хаця адносіны ў парах могуць папутацца 21-25.10.; не паказвай, хто тут верхам! На рабоце можаш мець шанцы на павышэнне і неблагую касу, але мусіш закасаць рукавы, і 24-28.10. будуць цябе віншаваць з поспехам! З 27.10. (да 29.10.) будзеш мець добрую руку да грошай. 23-25.10. можаш раскрыць нейкую таямніцу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**— У Польшчы, на жаль, няма пляцовак, дзе сваю творчасць могуць паказаць акцёры з Усходу, — кажа тэатральны крытык, кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Беластоцкага тэатра Конрад Шчабёт. Ён асабіста захапляецца ўкраінскім, беларускім, рускім тэатрам, паколькі пераканаы — там захавалася класічная традыцыя акцёрскай ігры, якая ідзе яшчэ ад Станіслаўскага. Менавіта Конрад Шчабёт ініцыяваў фестываль «Напрамак Усход», які прайшоў з 5 па 8 кастрычніка 2017 г.**

■ Таццяна Мархель



# «Напрамак Усход»: тэатр, які да нас бліжэй

— Куды яшчэ, як не ў Беласток запрашаць суседзяў, — заўважае дырэктар драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Пётр Паўтарак. — Наш горад, які стаіць на перакрыжаванні ўсходняй і заходняй культур — выдатная пляцоўка, тут добра разумеюць усходнюю культуру, пераканаы дырэктар. Больш таго, на Падляшшы пражывае беларуская і ўкраінская нацыянальныя меншасці, якія таксама патрабуюць тэатра на сваёй роднай мове. На гэтую асаблівасць звяртае ўвагу дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап. Факты склаліся ў адно і так нарадзілася ідэя — правесці тэатральны фестываль «Напрамак Усход». На сцэне беластоцкага тэатра выступілі трупы Харкаўскага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Тараса Шаўчэнкі і Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з Мінска.

### БЕЗ ДЗЕЮЧЫХ АСОБ

«Харкаўскі драматычны», альбо, як яго яшчэ называюць на стары манер «тэатр Бярэзіль» — адна са знакамітых украінскіх тэатральных пляцовак. Тэатр з гісторыяй і традыцыямі: у 1922 годзе Лесь Курбас (выбітны ўкраінскі тэатральны дзеяч) у Кіеве заснаваў тэатр-студыю «Бярэзіль», з 1926 года калектыў працуе ў Харкаве, ну а сёння гэта — Харкаўскі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Тараса Шаўчэнкі. Там выдатны калектыў, у складзе якога некалькі народных артыстаў Украіны і нават — паводле ЮНЕСКА — трупа тэатра ўваходзіць у дзясятку найлепшых труп Еўропы.

— З такімі прафесіяналамі лёгка працаваць, — кажа польскі рэжысёр Анджэй Шчытко, які ў Харкаве паставіў п'есу Тадэвуша Ружэвіча «Картатэка», спектакль, які паказалі ў Беластоку ў рамках «Напрамак Усход». Гэта апошняя праца Шчытко, раней з харкаўскімі акцёрамі ён паставіў «Бывай, Іуда» паводле Ірэдыньскага ды «Антыгона ў Нью-Йорку» Главацкага. З тэатрам працуе з 2012 года і яго можна назваць амбасадарам польскай драматургіі на ўкраінскай сцэне. Дарэчы, рэжысёр і акцёр сам родам з Аўгустова, а сваю творчую кар'еру пачынаў на сцэне Беластоцкага драматычнага тэатра.

— Ва Украіне — вайна, — кажа Анджэй Шчытко. — Тэма вельмі актуальная, асабліва, калі ўкраінцы перажываюць цяжкія часы. Гэта гісторыя пра разгубленае пакаленне, якое прайшло вайну. І не важна якая гэта вайна, — кажа пра «Картатэку» рэжысёр.

Ва ўніверсітэце нас вучылі: на першай старонцы — назва п'есы і аўтар, на другой старонцы — спіс дзеючых асоб і, магчыма, іх характары. Ружэвіч нам піша: «Я не падаю спісу дзеючых асоб. «Герой» п'есы — чалавек без узросту, занятку і выгляду». І на сцэне таксама — вялікі ложак, на якім герой, а вакол яго людзі, вобразы, характары з мінулага і сапраўднага. Яны распавядаюць розныя гісторыі і, здаецца, кожная з іх заслугоўвае асобнага спектаклю. Прызнаюся, часамі я губляў думку, пра нешта задумваўся сваё, вяртаўся ў спектакль, а ў галаве пытанне: і пра што гэта яны зараз? Потым за кулісамі мне патлумачылі: менавіта такі ён, Ружэвіч.

### БАГДАНОВІЧ, ЯКОГА НЕ ВУЧАЦЬ У ШКОЛЕ

Гэты спектакль, напрыклад, не любяць і не прымаюць супрацоўнікі літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Для іх Багдановіч — літаратурная ікона, класік, а ў гэтым спектаклі ён — закаханы юнак. «Дзённік паэта. Інтымны дзённік» па п'есе Сяргея Кавалёва паказалі акцёры Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з Мінска. Рэжысёр спектакля Віталь Баркоўскі, вядомы сваімі эксперыментальнымі падыходамі.

Быць альбо не быць. Шэкспір сфарміраваў універсальную формулу канфлікту ў любой п'есе. У Кавалёва пытанне стаіць іначай: публікаваць альбо не публікаваць інтымны дзённік класіка беларускай літаратуры.

Першы акт спектакля напоўнены рамантыкай, нам распавядаюць пра раман Максіма Багдановіча з Клавай Салтыковай летам 1915 года. Ялта. Шуміць мора, гукаюць чайкі. Рамантына-нахнёны Максім пакахаў Клаву. А ў Максіма закахалася малодшая сястра Клавы — Вольга. Але, здаецца, з гэтага трохкутніка і так нічога не выйдзе. Клава замужняя і муж забяспечвае яе ў жыцці, а Максім Багдановіч тут у Ялце толькі адпачывае, студэнт юрыдычнага вучылішча, які неўзабаве павінен вярнуцца дамоў. Шмат эмоцый і нават першы секс...

Мінімалістычная сцэнаграфія (тут, дарэчы, пазнаецца Баркоўскі) дапамагае раскрыць вобразы і нават секс перадаць без пошласці, а рамантычна. На сцэне мы бачым дзве рухомыя пласціны, з якімі граюцца акцёры. Гэта табе і плот, за якім можна схавацца і таксама, напрыклад, пакой.

У другім акце мы трапляем у сучаснасць. Рэдакцыя літаратурнага часопіса, дзе ў будзённасць урываецца інфармацыя, што знойдзены «той самы інтымны дзённік класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча». Друкаваць яго ці не? Як на яго адрэагуе грамадства. Тым больш там такія інтымныя падрабязнасці. Са сцэны нам цытуюць урыўкі: «У мяне ўстаў і я пайшоў з прыўзнятым... Я паваліў яе на зямлю і задраў спадніцу...».

«Так многа сексу, а дзе Паэт?», — узбройся я, на мой погляд, разумным пытаннем ды пайшоў за кулісы.

— Вы не пабачылі ў спектаклі Паэта? — перапытвае мяне заслужаная артыстка Беларусі Галіна Чарнабаева. — Дык гэта вашы праблемы. І потым тлумачыць: — Ці можна гаварыць пра жыццё і не гаварыць пра секс. Але там важнейшае — каханне. Праблема не ў тым, ці друкаваць інтымны дзённік, а ў тым, хто яго надрукуе першы, хто на гэтым «зрубіць бабло». А мы думаючы пра секс, грошы і іншае, акурат і губляем — Паэта. А вы б друкавалі?

— Так. Я б надрукаваў. Мне здаецца, гэта няправільна, калі нехта валодае такім скарбам і скрывае яго!

— Я таксама думаю, што варта друкаваць, — кажа Галіна Чарнабаева. — Гэта ўсё належыць гісторыі. Прынамсі, Багдановіч жа яго не спаліў?..

— Гэта не пра секс, а пра каханне маладога паэта і пра жыццё, — далучаецца актрыса Анастасія Баброва. Рэжысёр, калі ставіў спектакль, у яго была адна думка: Паэт і Космас. Паэт і каханне.

У п'есе сапраўды інтымны дзённік апублікаваў той, хто заплаціў больш грошай.

### РАЗМОВА З ЦЁПЛАЙ ПУБЛІКАЙ

Наступны спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі «Беларусь. Дыдактыка» рэжысёра Аляксандра Марчанкі.

На сцэне экран, мы бачым народную артыстку Беларусі Таццяну Мархель. Яна ў грымёрцы рыхтуецца, каб выйсці на сцэну. Хвалюецца... Мы гэта адчуваем. Яна ідзе да нас, распавядае гісторыі са свайго дзяцінства: як бацька не вярнуўся з вайны, як маці яго чакала... як яны са старшымі братам і сястрой, таксама перажывалі. Святло... і гераіня Таццяны Мархель перад намі на сцэне.

*Вялікі мой народ, зямля мая.*
*Гняздо пакут, змагання і свабоды*
*Я толькі што памёр. І ў гэты час*
*Аддаў табе, зямля, сябе самога*

Пафасна пачынае жанчына дэкламаваць са сцэны маналог Кастуся Каліноўскага з аднайменнай п'есы Караткевіча, але неўзабаве на паўслове абрываецца і разгублена глядзіць у далеч.

— Я спатыкаюся на гэтай пампезнасці. А ці сапраўды я, звычайная жанчына, магу «аддаць сябе самога». І я адчуваю, што я не гатовая да гэтага. Я — звычайны чалавек. Мне хочацца збегчы ад гледача, але я расказваю, тое што магу сказаць у гэтую хвіліну, — кажа пра свой вобраз народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.

Гэта гісторыі з жыцця жанчыны... Вясковай, якая шмат працавала, якая ад маці навучылася спяваць праўдзівыя беларускія песні, якая кахала і перажыла здраду.

— Так выдатна прайшоў спектакль у Беластоку, — кажа Таццяна Мархель.

Яна пасля спектакля ў добрым настроі ў грымёрцы здымае грым, а я стараюся зразумець, чым спадарыню Таццяну захапіла беластоцкая публіка. «Яна вельмі цёплая, на сцэне літаральна адчувалася дыханне з залы», — кажа народная артыстка і прызнаецца: гэта яе натхніла на імправізацыю і яна расказала, як муж з мамай прыязджаў знаёміцца. Селі за стол, чарку налілі... а тут мама і заспявала:

*А ці ж табе, Жэнечка — а кот вочы выдраў...*
*Па якіх ты ездзіў, а якую выбраў...*
*А з яе ж не складу, а з яе ж не ладу*
*Яна ж не з паходкі, яна ж не з работкі...*

Гледачы ў зале смяяліся, а Таццяна Мархель пераконвае, што гэта быў адмысловы падарунак для выдатнай беластоцкай публікі, у мінскіх спектаклях гэтага моманту няма.

Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля «Беларусь. Дыдактыка» Аляксандр Марчанка пераканаы, калі б не асоба Таццяны Мархель — ён бы не атрымаўся. Тут і ўрыўкі з класічных беларускіх твораў і асабістыя гісторыі Таццяны Мархель і, канешне, галоўнае — беларуская народная песня, не з сельскага клуба, а ад мамы. У вельмі характарыстычным выкананні Таццяны Мархель і музыкі Дзмітрыя Лук'янчыка. Тут можна дыскутаваць: у пэўным момант падаецца, што песень за багата. А больш хочацца паслухаць гісторый ды паназіраць за актрысай на сцэне. Хаця магчыма, такім быў настрой і ёй хацелася для нас спяваць. Памятаем, што актрыса імправізуе.

Таццяна Мархель, прызнавалася: дзеці нават былі супраць, казалі, мауляў, як гэта ты будзеш распавядаць пра сваё жыццё, пра свае перажыванні, а людзі за гэта будуць плаціць. Гэта ж вельмі інтымна. Так, сапраўды, са сцэны актрыса нам кажа: «мой муж», «мая мама», «мая гісторыя». Але, здаецца, такія ж гісторыі маглі адбыцца і ў жыцці тысяч беларускіх жанчын. І іх нам таленавіта расказвае народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.

Дэкарацыя сабраная, акцёры вярнуліся, хто ў Харкаў, хто ў Мінск. Але тры тэатры дамовіліся пра супрацоўніцтва. А гэта значыць, што ў наступным годзе на сцэне беластоцкага драматычнага тэатра мы пабачым акцёраў з Усходу. У тэатры абяцаюць развіваць «Напрамак Усход».

Тэкст і фота **Дзімы КАРМАЗІНА**

ISSN 0546-1960 43